PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 8 (1971) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 20 ЛЮТАГА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## БЫЎ СЯРОД НАС ІЛЬЯ КЛІМОВІЧ

**Ілья Клімовіч — селянін з Грыбоўшчыны**

жыў і дзейнічаў у міжваенны перыяд. Пачаў звяртаць на сябе ўвагу з 1926 г., калі пабудаваў царкву і пачаў адпраўляць там службы. У 30-х гадах залажыў секту ільіннікаў, якія агаласілі яго прарокам. Клімовіч вяшчаў канец Свету. З дараў паломнікаў пабудаваў Вершалін, які меў ацалець з катастрофы. Чорныя прароцтвы не споўніліся і за гэта вернікі прыгаварылі Ілью на смерць. Меў ён памерці як Ісус Хрыстос. Клімовіч адклікаў свае прароцтвы і перадаў царкву католікам. Калі прыйшлі саветы, звыш 70-цігадовага Ілью Клімовіча вывезлі ў Расею, дзе паказвалі маладым атэістам як „белорусского бога".

Прачытаўшы кніжку Аляксея Карпюка „Raj w Wierszalinie czyli przypadki Eliasza" ўва мне ўзнікла жаданне наведаць Грыбоўшчыну. Разам са мной падарожнічала Яніна Міхалевіч, якой кніжка Карпюка таксама спадабалася. Вырашылі мы, што найперш паедзем у Крынкі. Аднак людзі ў аўтобусе перакаралі нас выйсці ў Востраве. Паводле іх, мела быць бліжэй. Так мы і зрабілі. Востраваў тут аж тры. Мясцовыя людзі называюць іх Южны Востраў, Северны Востраў і Новая Вёска. Па польску гэта гучыць так: Ostrów Południowy, Ostrów Północny, Ostrów Nowy і ўсе гэтыя вёскі вельмі пустыя. Апрача брэху сабак нічога тут не дзеялася. Аднак на вуліцы сустрэлі адну цётку, якая прыехала сюды наведаць сваю маці. Сама яна жыве ў Беластоку. Калі даведалася, што мы з „Нівы", цётка разгаварылася. Заявіла нам, што яна — сяброўка жонкі Сакрата Яновіча. Калі запыталіся

**як у Востраве людзі ўспамінаюць Ілью Клімовіча,**

пачулі ў адказ такія словы:

— У нас пра гэтага Ілью то голасна не гаварылася. Гэта свайго роду мясцовая тэма табу. Мужыкі гаварылі, быццам Ілья „выкарыстоўваў" маладых дзяўчат. Не раз чуліся сваркі, падчас якіх мужчыны дапікалі сваім жонкам „Грыбоўшчынай". Гэта праўда, што 17-цігадовыя дзеўкі ўцякалі тайком у Грыбоўшчыну, дзе палолі ільіннікам агароды, прыбіралі ў царкве ды апекаваліся паломнікамі. Але калі вярталіся назад, то ніколі аб гэтых справах не расказвалі.



*Гэта няпраўда, што царква выйшла з зямлі...*

**Школа ў Паўднёвым Востраве**

таксама звязаная з асобай Ільі Клімовіча. Пасля вайны перавезлі сюды будынак з Вершаліна. Вершалінская школа аднак згарэла. На яе месцы паставілі такую ж самую будоўлю. Такім спосабам захавалася рэканструкцыя гатэлю, у якім жылі „апосталы і святыя дзевы". Зараз тут — трохкласная школа. Другі будынак з Вершаліна знаходзіцца ў Ляшчане. Там таксама пачатковая школа.

**Шчасце спрыяла**

Па дарозе падвярнуўся хлопец, які завёз нас у Гураны. Пра Ілью Клімовіча ён сёе-тое чуў.

— У нас у клубе такая хроніка ёсць. Гэта для турыстаў, якія пра Ілью пытаюцца. Цяпер аднак там усё закрыта.

Пра Грыбоўшчыну і Клімовіча пыталіся мы ў жыхароў Гуранаў. Там таксама пабывала Надзя Мішчук з мужам. Якраз прыехалі фурманкай пазваніць да крынкаўскага лекара. Цётка

**Надзя Мішчук**

з 1974 года апекавалася ільіннікамі — бабулямі, якія „не хадзілі ў царкву і ў Ілью верылі". Апошняя з іх, Таццяна Кавальчук памерла 2 гады таму.

— А цяпер да нас мільёны журналістаў прыязджаюць. Нядаўна Слабадзянэк круціў тут фільм. Я іх усіх прымаю, бо люблю гаварыць з людзьмі. Прывезлі мне кніжку пра Клімовіча, цяпер яе чытаюць дзеці, што ў Беластоку, — гаворыць цётка Надзя.

**Грыбоўшчына сёння**

не напамінае турыстычнай мясціны. Тое, што прыязджаюць тут людзі з цэлага свету не мае ніякага гаспадарчага значэння. Вёска старая, палова хатак стаіць ужо пустымі. У Грыбоўшчыне ўсяго 5 сем'яў. Большасць жыхароў ужо на пенсіі. У вёсцы адзін гаспадар, адзін трактар, адзін конік. Жывуць тут праваслаўныя і каталікі. Каталіцкая парафія тут у Падліпі, а праваслаўная ў Востраве. Усе ў наваколлі гавораць пабеларуску. Толькі маладыя гэту мову лічаць сарамлівай справай.

У пачатку вёскі жывуць Русалёвы (празвішча вядомае з кніжкі Карпюка).

☞ *Працяг на стар. 3*



*Надзя Мішчук і Барыс Валошын.*

## ГІБРЫД

У 1989 г. жыхарам Польшчы здавалася, што пачалася новая эпоха пабудовы капіталістычнага грамадства і гаспадаркі па рынкавых прынцыпах. Большасць уяўляла сабе, што настане справядлівасць, кожны будзе ўласнікам нейкай маёмасці, якую супольным намаганнем стварылі два пасляваенныя пакаленні. Сацыялістычная, дзяржаўная маёмасць узнікла — як вядома — са сродкаў, якія выпрацоўвалі таксама нашыя бацькі і дзяды. Рабочы за сваю працу атрымоўваў 20% таго, што выпрацаваў, селянін столькі ж за прадукты, якіх адзіным пакупніком імкнулася быць дзяржава. Думаю тут перш за ўсё пра 50-ыя, 60-ыя гады, калі грамадства выказала найбольшую ахвярнасць у пабудове сацыялістычнай гаспадаркі. Пры Герку стала ўжо лягчэй, бо сродкі на інвестыцыі былі пазычаны за граніцай. І так узнікла маёмасць, якая сапраўды была агульнанацыянальнай, бо цэлы народ сваёю працай браў удзел у яе стварэнні.

Але ў 1989 г. заявілі з высокіх трыбун, што настаў час капіталізму і прыватызацыі. Здавалася, вельмі добра! Неэфектыўнасць сацыялістычнай гаспадаркі аж надта ўсім была відавочнай. Думалася тады, што будзе так: уласнік малой пякарні будзе накапліваць капітал і за некалькі гадоў збудуе большую, яго сын праз 20 гадоў — нават дзве і на дадатак адкрые рэстаран. Хтосьці іншы, хто гандляваў на тратуары, даб'ецца малой крамы, а пасля двухпавярховага гандлёвага магазіна. Здавалася, што знікнуць усе юрыдычныя абмежаванні, якія не дазвалялі адзінкам на гаспадарчую актыўнасць, а праца, ашчаднасць і добрасумленнасць вырашаць будучынь пра грамадскі статус чалавека.

Думалася таксама, што гэтую агульнанацыянальную маёмасць падзеляць у нейкі спосаб так, каб кожны, хто яе ствараў, або калі стварылі яго продкі, нешта атрымаў. Калі ўжо рашыліся на капіталізм, то кожная рэч мусіць быць чыёйсьці ўласнасцю.

Выглядае на тое, што такое ўяўленне пра будучыню мела большасць грамадства, бо кожны хто мог кінуўся ствараць нейкі „бізнес". Адзін стараўся адкрыць краму, другі арганізаваў будаўнічую фірму, трэці з сябрамі ствараў прадпрыемствы па вытворчасці мэблі.

Але неўзабаве ўсе новыя прадпрымальнікі пераканаліся, што іх праца і актыўнасць нікога не цікавяць і не даюць спадзяванага прыбытку. Наадварот, падаткі і фінансавыя махлярствы дзяржаўных ураднікаў давялі да банкруцтва перш за ўсё тых, якія хацелі быць добрасумленнымі.

Амаль вокамгненна, аднак, узнікла група новых багацеяў, якім мільярды плылі не ў выніку іх гаспадарчай дзейнасці, а толькі таму, што апынуліся ў г. зв. наглядных радах вялікіх фірмаў, сярод членаў супалак, якія невядома паводле якіх

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*У Горадні існуе клюб вэтэранаў, які штомесяц ладзіць сходы ў Доме афіцэраў. Сюды прыходзіць шмат адстаўнікаў Савецкай Армії, якія і вядуць рэй (...) Намеснік абласнога тэлебачання сп. Задоля рызыкнуў выступіць на беларускай мове. Зала ажыла! „Мы не понимаем! — крычалі. — Гнать в шею! Он из БНФ! Националист!". Адзін раз'юшаны вэтэран ляментаваў „Вы не знали, что тут в основном русскоязычные собрались! Почему же по-русски не говорите?!" (...) Палкоўнік Посахава сказаў, між іншым: „Мы за белорусские песни, за фольклор, но против того, чтобы людей снова вели железной рукой. По-настоящему свободной Белоруссия была только в СССР, когда мы имели право свободно ездить на Черное море. Мы сейчас закабаленная страна.*

*(Свабода, н-р 3)*

* * *

*PSL nie lubi dziennikarzy, dziennikarze nie lubią PSL. W kierownictwie partii nie ma osoby, która potrafiłaby wyjść z tego zaklętego kręgu, spróbowała nie pouczać dziennikarzy, nie obrażać się na media. Już na pierwszym posiedzeniu Klubu Parlamentarnego PSL posłowie zostali pouczeni jak bronić się przed dziennikarzami. — Mówcie wolno i nie o tym o co was pytają, lecz to, co sami chcecie powiedzieć.*

*(Rzeczpospolita, nr 26)*

Народная ўлада ніколі не слухала пытанняў, дэкламавала толькі загадзя падрыхтаваныя адказы.

* * *

*Moskiewscy naukowcy i amerykańska CIA są zgodni: Ukraina rozpadnie się na dwa albo trzy państwa. Jeszcze w 1991 r. tuż po puczu sierpniowym, jelcynowskie już KGB utworzyło trzy niewielkie grupy operacyjne: „Donieck", „Krym" i „Noworosja". Zajmowały się one wspieraniem ruchów separatystycznych istniejących wśród Rosjan i rosyjskojęzycznej ludności tych terenów.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 24)*

Бачым, што старэйшая сястра не забывае таксама і пра нашых братоў украінцаў.

* * *

*Po latach zapewnień, że oto staliśmy się narodem wybranym — wybranym do obalenia komunizmu — zdawało się, że z tego tytułu zostaniemy pieszczochami demokracji. Prawda okazała się mniej piękna: nie o nas szło, lecz o demontaż imperium. Dziś wygląda na to, że owszem, do Europy pójdziemy, lecz wyłącznie jako misjonarze. I pokażemy tym zgniłkom, ile mogą skorzystać. Nareszcie diabeł zostanie przepędzony. Seks przestanie kusić do grzechu stając się świadczeniem posług małżeńskich, rządy i parlamenty zajmą się zawieraniem konkordatów.*

*(Polityka, nr 4)*

І будуць такім чынам заведзены маральнасць і парадак у Еўропе.

* * *

*Mimo wyraźnego podziwu dla trwania Lecha Wałęsy na etacie głowy państwa wydaje nam się, że misja jego dobiega końca i jako człowiek honoru powinien podać się do dymisji. Tym bardziej, że, jak sam często twierdzi, zrobił już wszystko, a nawet więcej,* — піша салідарніцкі беластоцкі орган *Gazeta Współczesna (nr 15).*

* * *

*Ryba, lat 24. Jestem tolerancyjną, wysoka, szczupłą szatynką. Lubię kino, dyskoteki, książki oraz długie spacery. Poznam chłopaka wyznania prawosławnego, najchętniej z własnym mieszkaniem w Białymstoku — wykluczeni Białorusini.*

*(Kurier Podlaski, nr 14)*

Дзеўка мае цалкам сур'ёзную праблему. Праваслаўнага мазура вельмі цяжка знайсці ў Беластоку. Ёсць яшчэ пару асоб крымскага паходжання ў ваколіцах Крынак, некалькі праваслаўных хазараў паміж Бугам і Нарвай, пару патрыётаў заўральскай краіны, якія штодзённа моляцца за поспех Уладзіміра Вольфавіча, але гэтыя апошнія маюць продкаў у Міхалоўскай, Нараўскай, Бельскай ці Арлянскай гмінах. Нават як будзе такі гаварыць на чужым дыялекце, то, калі спацее, і так смярдзець будзе беларусам. Няшчасная Рыбка пазнае добра знаёмы пах хлопцаў з дыскатэкі ў „рэмізе". Хіба, што сам ксёндз jej błogosławi і будзе тады на сёмым небе.

* * *

*Białorusin w śródmieściu zachowuje się niemal identycznie jak Mazur na Marszałkowskiej. Jednego i drugiego łatwo zdemaskować: przesadnie szydzi z wiochy, sili się na książkową polszczyznę* — сказаў Сакрат Яновіч.

*(Gazeta Współczesna, nr 20)*

* * *

*W Izraelu istnieje niezwykle chłonny rynek zbytu na jasnowłose prostytutki, szczególnie wśród arabskich mieszkańców tego kraju. Społeczeństwo arabskie traktuje uprawianie nierządu z niezwykłą surowością. Niejedna dziewczyna czy kobieta arabska, podejrzana o ten proceder, przypłaciła to życiem. Z tego powodu nie ma prawie arabskich prostytutek, ale jest zapotrzebowanie na takie usługi.*

*(Reczpospolita, nr 25)*

* * *

*Protestanccy chłopi z Turyngii nigdy nie wspominali Boga, ale przez dwa lata poznałem Go chyba lepiej niż w Polsce wśród katolików przez resztę życia.*

*(Polityka, nr 4)*

Гэта — выказванне „шлёнзака", мастака-фатографа Фрыдэрыка Крэмсэра. Сведчыць яно, што язычніцтва пануе не толькі на паўночна-ўсходніх ускраінах Рэчыпаспалітай, але таксама і паўднёва-заходніх. І тут і там хрысціянства амаль не адчуваецца, хаця ўсе называюць сябе хрысціянамі.

* * *

*Z autobiografii Żyrinowskiego wynika, że przeżył on bardzo smutne i samotne dzieciństwo i okres dorastania. Wiek młodzieńczy upłynął pod znakiem niesłychanych kompleksów — zwłaszcza wobec kobiet. Żyrinowski marzył, aby być najsilniejszym i najsprytniejszym wśród kolegów, a przypadła mu rola największego i odtrąconego przez wszystkich fajtłapy.*

*Trzeba piekielnie uważać na tych cichych nieudaczników, którzy siedzą w kącie i mają za złe, że nikt ich nie kocha. Bo kiedy jest się żałosnym fajtłapą, to jakże musi się nienawidzieć tych, którzy żyją normalnie, z uśmiechem, z sukcesami. Jakże chciałoby się znaleźć w sytuacji, kiedy oni wszyscy byliby zdominowani, zależni i wpatrzeni z trwogą w oblicze fajtłapy i niepewni swego losu.*

*(Wprost, nr 2)*

Так, жартам канец! Валодзя Вольфавіч, так як і Валодзя Ільіч, дапускае толькі свае штучкі.

## З мінулага тыдня

Крызіс у парламенцкай кааліцыі, выкліканы адстаўкай віцэ-прэм'ра і міністра фінансаў **Марка Бароўскага**, прадухілены. У выніку перамоваў кіраўніцтваў СЛД і ПСЛ абодва бакі заявілі волю захаваць гэтую кааліцыю да канца чатырохгадовых паўнамоцтваў Сейма і Сената цяперашняга склікання.

**Узмацненне польска-расейскага супрацоўніцтва** ў галіне барацьбы з арганізаванай злачыннасцю заявіў міністр унутраных спраў Расейскай Федэрацыі ген. **Віктар Ерын**. Падчас трохдзённага візіту ў Польшчу правёў ён размовы ў Міністэрстве ўнутраных спраў і быў прыняты прэзідэнтам РП **Лехам Валэнсай** і прэм'ер-міністрам **Вальдэмарам Паўлякам**. Мэтай візіту, нанесенага па запрашэнню шэфа польскага МУС **Анджэя Мільчаноўскага**, была ацэнка, заключанага ў лістападзе 1992 г. міжведамаснага пагаднення аб супрацоўніцтве.

**У Беластоку будзе створаны Філіял Вярхоўнага адміністрацыйнага суда**, які будзе разглядаць скаргі на рашэнні ваяводы, Апеляцыйнай калегіі пры Самаўрадавым сейміку Беластоцкага ваяводства, скарбавай палаты і ўправы. Адкрыццё Філіяла ў Беластоку аблегчыць працу чыноўнікам, якія ўжо не будуць ездзіць у Варшаву на разгляд сваіх рашэнняў, а таксама скароціць тэрміны чакання на распазнанне апеляцый.

**Віцэ-прэм'ер і міністр юстыцыі Владзімеж Цімашэвіч** нанёс афіцыйны візіт у Беласток, падчас якога наведаў Ваяводскую камендатуру Дзяржаўнай пажарнай аховы і мясцовую Следчую турму. В. Цімашэвіч быў таксама госцем мясцовай рэктарскай калегіі, у састаў якой уваходзяць рэктары ўсіх беластоцкіх ВНУ. Госцю была прадстаўлена цяжкая фінансавая сітуацыя беластоцкіх вышэйшых навучальных устаноў. Вялася таксама размова аб магчымасцях стварэння самастойнага універсітэта ў Беластоку.

**Беластоцкія вышэйшыя навучальныя ўстановы** вызначылі ліміты месц для студэнтаў першага курса ў наступным годзе. Філіял Варшаўскага універсітэта плануе прыняць на стацыянарныя аддзяленні каля 1300 чалавек, Політэхнічны інстытут — 1410, а Медыцынская акадэмія — 312.

**Краёвая камісія Прафсаюзаў „Салідарнасць"** арганізавала ў Варшаве дэманстрацыю-пратэст супраць павышэння цэн і спаду ўзроўню жыцця. З Беласточчыны ў Варшаву паехала 12 аўтобусаў з прафсаюзнымі дзеячамі і прадстаўнікамі мясцовых заводаў.

**Беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс** па патрабаванню ваяводскіх структур СЛД і ПСЛ запрапанаваў прэм'ер-міністру адклікаць з пасады віцэ-ваяводы **Аляксандра Усакевіча** і назначыць на гэты пост Анджэя Гаеўскага, дырэктара Дзяржаўнага клінічнага шпіталя. Ваявода запрапанаваў А. Усакевічу пасаду старшыні Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі.

**Каналізацыйная сетка** ў вёсках Беластоцкага ваяводства практычна не існуе, а большасць гмін намерваецца стварыць яе ў бліжэйшай будучыні. Каналізацыйныя калектары пракладзены толькі ў некаторых мясцовасцях Бельскай, Чаромхаўскай, Міхалоўскай, Нараўскай, Нараўчанскай, Сухавольскай, Супрасльскай і Заблудаўскай гмінаў. Астатнія 42 гміны плануюць правесці каналізацыю ў сваіх вёсках да 2010 года, а толькі гміны ў Саколцы і Мілейчыцах не маюць такога намеру. На агульны лік 1550 вёсак у ваяводстве водаправодамі карыстаецца 624, што складае 40 працэнтаў.

**Дваццаць тры туркі**, якія нелегальна перасяклі польска-беларускую граніцу, былі затрыманы польскімі пагранічнікамі ў ваколіцах Саколкі. Намерваліся яны цераз Польшчу перабрацца ў Нямеччыну. Нежаданых гасцей польскія гранічныя службы перадалі беларускім пагранічнікам.

**У Гайнаўцы** ў кватэру, у якой прабывала толькі дванаццацігадовая дзяўчынка, увайшлі зладзеі ды, звязаўшы яе і запёршы ў ваннай, забралі грошы, каштоўнасці і відэаапаратуру. Злачынцы пакінулі яшчэ пачку, у якой мела знаходзіцца бомба, і закрылі кватэру на ключ. Крык дзяўчынкі пачулі суседзі і паклікалі паліцыю, якая эвакуіравала ўсіх жыхароў блёка і пазвала антытэрарыстычную групу з Беластока. Выявілася, што ў пакунку быў завернуты ў падушку... кавалак дошкі. Пошук бандытаў працягваецца.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Турма ў вёсцы Кожына што ў Бельскай гміне.
- Успаміны Сакрата Яновіча пра Юрку Геніюша.
- Юбілей калектыву з Арэшкава.
- Каляндар БГКТ на 1994 год.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Заява спікера

1 лютага работа Вярхоўнага Савета пачалася з кароткага выступлення новага старшыні Мечыслава Грыба. Кіраўнік парламента ў прыватнасці сказаў, што толькі сумеснымі намаганнямі Беларусь можа выйсці з крытычнай сітуацыі. Спікер падкрэсліў, што не выступае супраць розных думак, але ён супраць, калі крытыка гучыць толькі дзеля крытыкі. Гаворачы аб адносінах з іншымі краінамі старшыня ВС паведаміў, што Беларусь будзе працягваць курс на ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва. Мечыслаў Грыб расказаў таксама, што ў той дзень у Барыса Ельцына быў дзень нараджэння і што меў ён з ім гутарку па тэлефоне. Як запэўніў новы спікер, „з боку расейскага прэзідэнта ёсць падтрымка і ўзаемаразуменне".

### Распусціць БНФ!

Ануляваць пасведчанне аб рэгістрацыі статута БНФ, узбудзіць крымінальную справу супраць яго лідэраў прапануе Генеральнаму пракурору і Міністэрству юстыцыі Савет палітычна-грамадскай арганізацыі „Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць". Заява зроблена на падставе таго, што на думку Савета, Зянон Пазьняк і іншыя лідэры БНФ беспакарана імкнуцца ўзбудзіць міжнацыянальную варожасць пры дапамозе русафобіі ды выстаўляюць неабгрунтаваныя прэтэнзіі да сумежных дзяржаў.

### У Літву за візамі

З 1 сакавіка грамадзяне Беларусі змогуць прыязджаць у Літву толькі за важнымі пашпартамі і з літоўскімі візамі. Часова да 1 чэрвеня будуць сапраўднымі таксама запрашэнні ад прыватных асоб і прадпрыемстваў. Беларусы, якія працуюць або вучацца ў Літве, павінны прыдбаць адпаведныя візы.

### Італьянская дапамога

420 мільёнаў рублёў выдзеліў італьянскі ўрад праз сваё пасольства ў Рэспубліцы Беларусь на рэканструкцыю дамбы каля вёскі Глініца Мазырскага раёна. У мінулым годзе невялічкая рэчка Убарць падчас разліваў перарвала дамбу і затапіла больш за тысячу гектараў пасеву калгаса „Палессе". Сродкі, выдзеленыя італьянскім урадам, будуць выкарыстаны на будаўніцтва новай дамбы.

### Будуюцца ваенныя гарадкі

Паспяхова рэалізуецца ў Беларусі жыллёвая праграма, фінансаваная Германіяй для ваеннаслужачых заходняй групы войск былога СССР, якія вяртаюцца дамоў. Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Менску паведаміла, што ў сямі населеных пунктах Рэспублікі Беларусь на сродкі, выдзеленыя нямецкім урадам будуюцца 5938 кватэр, а таксама дзіцячыя сады, палікліні́кі і магазіны. У Барысаве, Слоніме, Баранавічах, Бярозе, Лідзе і Мар'інай Горцы кватэры ўжо здадзены пад ключ. У рамках гэтай жа праграмы Беларусь атрымлівае і домабудаўнічы камбінат у пасёлку Шысць, кошт якога вызначаны ў 200 млн. нямецкіх марак. Акрамя таго цэнтру перападрыхтоўкі ваеннаслужачых, размешчанаму ў Калодзічах пад Менскам, прызначана федэральным урадам дапамога на суму 8,21 млн. марак у выглядзе матэрыялаў, абсталявання, камп'ютэраў. Пасля заканчэння будаўніцтва гэтага цэнтра ў ім змогуць абучацца 11 прафесіям 500-600 чалавек.

### Рублёвыя кансультацыі

У Менску прайшлі расейска-беларускія кансультацыі па пытаннях аб'яднання грашовых сістэм дзвюх дзяржаў. Была дасягнута папярэдняя дагаворанасць аб цэнах на расейскія энерганосьбіты. Гэтая праблема мае для Беларусі асабліва важнае значэнне. Галоўная цяжкасць на перамовах — устанаўленне курсу абмену беларускай валюты да расейскага рубля.

### Візіт бельгійскіх парламентарыяў

Дэлегацыя Палаты прадстаўнікоў парламента Бельгіі сустрэлася з беларускімі калегамі. У ходзе гутаркі бельгійскіх і беларускіх дэпутатаў адбыўся абмен думкамі па праблемах знешняй і ўнутранай палітыкі дзвюх краін. Першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслаў Кузняцоў заявіў, што ў лютым будзе прынята рашэнне аб даце датэрміновых выбараў у парламент рэспублікі.

### Незвычайная бамбёжка

Самалёты беларускіх ваенна-паветраных сіл скінулі некалькі авіябомбаў на лёд ракі Прыпяць ля Мазыра. Неабходнасць гэтага была прадыктавана ўтварэннем небяспечных ледзяных затораў, якія ўзнялі ўзровень вады ў Прыпяці да крытычнага стану. Рака выйшла б з берагоў і затапіла б некалькі населеных пунктаў, калі б своечасова не была праведзена бамбардзіроўка.

### Юбілеі ў Вялікім тэатры

Два юбілеі запар адзначалі нядаўна ў Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. 120 гадоў споўнілася першаму выкананню „Рэквіем" Дж. Вердзі, а 5 лютага — у гонар з дня нараджэння першай зоркі беларускай опернай сцэны Ларысы Александроўскай — у Вялікім прагучала опера Жоржа Бізэ „Кармен".

### Ушанаванне Антона Луцкевіча

Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада наладзіла ўрачыстасць у гонар вядомага дзеяча беларускага адраджэння, аднаго з заснавальнікаў Грамады на пачатку XX стагоддзя, Антона Луцкевіча. У праграме вечарыны, якая прайшла ў менскім Доме літаратара, былі выступы, мастацкі канцэрт і дакументальны фільм пра жыццё і дзейнасць Луцкевіча.

(вл)

# КЕБІЧ — ПАН, АЛЕ ЦІ ГАСПАДАР?..

Літовец правініўся, Шушкевіча адклікалі — так адным сказам можна абагульніць апошнія падзеі на Беларусі. Натуральна, віны не трэба шукаць у літоўцаў. Адкліканне Шушкевіча звязана з замацаваннем сярод камуністычнай большасці ў беларускім парламенце накірунку на паглыбленне супрацоўніцтва з Расеяй. Магчыма, што слова супрацоўніцтва трэба замяніць на інтэграцыя, або на больш мацнейшае падпарадкаванне Беларусі „мацярцы" Расеі. Шушкевіч, нягледзячы на ўсе яго-ныя недахопы, сімвалізаваў, аднак, так унутры дзяржавы, як і вонкі, яе незалежнасць. Хаця можна запытаць, колькі тае незалежнасці было? Але сімвал быў. Камуністы некалькі разоў прабавалі адсунуць Шушкевіча ад улады, але заўсёды нешта не выходзіла. Усе думалі, што так будзе і гэтым разам...

Усё пачалося паўтары гадзіны пасля ад'езду з Беларусі прэзідэнта ЗША Біла Клінтана, калі літоўскія спецслужбы за тэлефонным дазволам беларускай пракуратуры і пры дапамозе беларускай міліцыі арыштавалі членаў, арганізаванага ў 1991 годзе г.зв. Камітэта нацыянальнага вызвалення Літвы, які намерваўся адсунуць ад улады Ландсбергіса. Членаў гэтага Камітэта шукала Генеральная пракуратура Літвы за злачынствы супраць народа. Многія з іх, а як падае літоўскі бок 11 чалавек, жывуць на тэрыторыі Беларусі.

Пасля вывазу Буракявічуса і Ермалавічуса, беларускія камуністы паднялі ў парламенце крык, што літоўскія службы самавольна дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі. Хутка пасяджэнні парламента сталі закрытымі і пачаліся пошукі вінаватых складзенай сітуацыі. Першага дня справаздачы давалі: міністр замежных спраў П. Краўчанка, генеральны пракурор В. Шаладонаў, шэф КДБ Э. Шыркоўскі і шэф МУС У. Ягораў. У дыскусіі дэпутаты ад апазіцыі пыталі камуністаў, чаму яны не пратэставалі, калі расейскія спецслужбы арыштавалі на тэрыторыі Беларусі і вывезлі ў Расею беларускіх грамадзян. Тады, як падкрэсліў у часе аднаго з перапынкаў дэпутат В. Голубеў, камуністы смяяліся, аднак, калі былі арыштаваны „товарищи", тады зноў адазваўся ў іх інтэрнацыянальны дух. Аказваецца, што беларускім камуністам больш блізкія літоўскія камуністы, чым грамадзяне свае дзяржавы, — заўважыў Голубеў. Справа цягнулася амаль тыдзень з абавязковым у беларускіх парламентарыяў перапынкам на суботу і нядзелю. Пасля „уік-энду", набраўшы сілы, у аўторак (25 студзеня) звольнілі Ягорава і Шыркоўскага за тое, што дазволілі вывезці літоўскіх камуністаў (дадам, што раней Шыркоўскі і Ягораў наклікалі на сябе гнеў прэм'ер-міністра Кебіча), а ў сераду ўжо з размаху паляцеў і Шушкевіч. Аргументы не былі тут найважнейшымі (калі нехта прыглядзіцца, можа прыпомніць сталінскія працэсы: калі патрэбна ахвяра — ахвяра будзе, а доказы знойдуцца). Найбольш хіба сур'ёзны і смешны закід пастаўлены спікеру гэта тое, што Шушкевіч растрацій суму раўнацэнную недзе 100 доларам, а гэта, нават як на беларускія ўмовы, грошы невялікія.

Яшчэ перад тым, як Шушкевіча адклікалі, я размаўляў з дэпутатамі ад апазіцыйнага БНФ. Усе падкрэслівалі, што няважнае, хто вінаваты, бо і так вызваляць Шушкевіча. Тут дадам, што раней Шушкевіча бараніў БНФ і больш памяркоўныя партыі, напрыклад Партыя народнай згоды, ці менш радыкальныя камуністы. Аднак пастаянныя змены рашэнняў спікера беларускага парламента (напрыклад, раз абараняў ён нейтралітэт, а другі раз — калі яго прыціснулі — паехаў у Маскву і абяцаў, што падпіша пагадненне аб калектыўнай бяспецы дзяржаў СНД без аніякіх агаворак) адпіхнулі ад яго і так нешматлікіх прыхільнікаў. Да гэтага ўсяго дайшло цяжкае эканамічнае становішча рэспублікі. Шушкевіч не мог вырашыць, ці ісці ў капіталізм, ці ў сацыялізм; ці супольна з Расеяй, ці паасобку. Гэта ўсё не толькі адсунула ад яго апазіцыйны БНФ (які ўжо раней перастаў аказваць Шушкевічу падтрымку) але і памяркоўных дэпутатаў.

Калі я запытаўся дэпутатаў ад БНФ, як будуць яны галасаваць, калі ў парадак дня будзе ўключана справа адклікання Шушкевіча, яны сказалі, што не будуць прымаць удзелу ў галасаванні. Праўдападобна справу адстаўкі Шушкевіча вырашылі гэтыя памяркоўныя дэпутаты.

Тыдзень пасля адстаўкі Шушкевіча, у спешцы, беларускі парламент выбраў новага старшыню Вярхоўнага Савета. Стаў ім генерал міліцыі Мечыслаў Грыб. Зараз пасля выбараў сказаў ён, што асноўная рыса, якая адрознівае яго ад Шушкевіча, гэта: „стаўленне да дагавору аб калектыўнай бяспецы і да справы нейтралітэту Беларусі". Грыб прыпомніў, што ён заўсёды быў і застаецца далей прыхільнікам дагавору аб калектыўнай бяспецы. Што гэта абазначае для суверэнітэту Беларусі, каментаваць не буду, але дадам, што прэм'ер-міністр Кебіч не ўяўляе сабе жыцця без эканамічнага спалучэння з Расеяй, асабліва без супольнай валюты.

Цяпер, як падкрэсліваюць усе каментатары, улада поўнасцю апынулася ў руках Кебіча. Лідэр БНФ З. Пазьняк сказаў, што Беларусь накіроўваецца ўбок дзяржаў тыпу Узбекістана. Камуністы-фундаменталісты ўжо цяпер запрапанавалі паставіць у Менску помнік Кебічу за тое, што выратаваў Беларусь ад нацыяналізму. Аднак народ не жыве палітыкай, народ патрабуе працы і хлеба. Вядома, што рэзерваў на Беларусі няма, а Кебіч не ў змозе правесці рыначную рэформу. Для яго адзінае выратаванне, і ён пра гэтае ведае, Масква. Усё на гэта паказвае, што цяпер лёс Беларусі зноў у руках Расеі.

* * *

Чатыры гады назад мая душа радавалася, калі, уязджаючы ў Менск, пабачыў я над беларускім парламентам бел-чырвона-белы сцяг. Пасля былі і змены назваў вуліц на беларускія, былі выпадкі, што ў сталічным Менску чалавек пачуў на вуліцы беларускую мову. Баюся, каб беларускі народ ізноў да вясёлых мелодыяў не ўпісваў сумнага зместу...

**УЛАДЗІМІР ПАЦ**

# ГІБРЫД

☛ *Працяг са стар. 1*

прынцыпаў станавіліся ўласнікамі агромнай, раней дзяржаўнай, маёмасці. Гэтыя людзі рабіліся мільярдэрамі нічым не рызыкуючы, не ўносячы ніякага ўласнага капіталу, ніякай маёмасці. Тое, што было агульнанацыянальнай уласнасцю, хутка пачало ператварацца ва ўласнасць — паводле права — амаль неакрэсленую, якую аднак згодна з правам аблезлі пачварныя істоты, высмоктваючы чысты капітал, які ў кожнай сістэме галоўным чынам павінен быць накіраваны на інвестыцыі.

Пра грамадскі статус чалавека, яшчэ больш, як пры камунізме, пачаў вырашаць штат, месца — сярод членаў управы дзяржаўнай фірмы ці ўстановы, месца сярод членаў акцыянернай суполкі. Адпаведны штат — месца стварае не талент, не інтэлігентнасць, а сяброўства і ўсялякія сувязі з наменклатуршчыкамі.

Прыватызацыя, пра якую апошнім часам так многа гавораць, што некаторым ужо і абрыдла слухаць, гэта не што іншае, як ператварэнне наменклатуры ў групу капіталістаў, але часта паводле мафіёзных прынцыпаў, хаця цалкам законна. У выніку махлярства невялікі працэнт грамадзян стаў уласнікам капіталу, які ў нармальнай капіталістычнай краіне ствараў 2-3 пакаленні.

У канцы студзеня г.г. заявілі, што ў выніку „памылковай" ацэнкі вартасці акцый Шлёнскага банка дзяржаўны бюджэт страціў звыш 13 більёнаў злотых. Такая сума, напрыклад, магла б вырашыць усе праблемы асветы, культуры і навукі ў Польшчы. Хто тады ўзяў гэтыя 13 більёнаў? Кожны, хто купіў акцыю за паўмільёна злотых, ужо праз месяц мог на варшаўскай біржы атрымаць 6,75 млн. Тым, што стаялі ў чэргах, прадалі 20 працэнтаў долевых удзелаў, тры на кожнага чалавека. Вядома, што і ў гэтых чэргах не стаялі сяляне з Чыжоўскай гміны ні пенсіянеры з Беластока, а толькі маладыя, здаровыя аматары „лёгкага граша". Але гэты натоўп быў толькі для тэлегледачоў, каб паказаць, што народ прымае ўдзел у прыватызацыі. Члены ўправы банка — як заяўляе прэса — зарабілі на акцыях, якія самі купілі ад 7,5 да 15 мільярдаў зл. на чалавека. Купілі яны 280 тысяч акцыяў па 250 тысяч злотых адна і 640 тыс. акцыяў па 500 тыс. злотых

Другі прыклад — продаж акцыяў фабрыкі катлоў „Rafako". 20 прац. прадалі для дуграгадных махлярчыкаў, 25 працэнтаў раздалі працаўнікам фірмы, 5 працэнтаў — членам управы, а што з рэштай, пакуль што зусім невядома. Адзіны фактар, які мог бы тут запратэставаць — працоўны калектыў — быў падкуплены. Кожны працаўнік атрымаў на старце 250 мільёнаў з перспектывай, што гэта сума на біржы пабольшыцца да мільярда.

І так, як пры кожнай такой прыватызацыі, паўстае пытанне, ці нават працаўнікі фірмы маюць права на такія долевыя ўдзелы, калі інвестыцыя гэта была створана на сродкі, выпрацаваныя цэлым грамадствам.

Сістэма, якая цяпер існуе ў Польшчы — гэта ўжо не сацыялізм, але ні ў якім выпадку не еўрапейскі капіталізм. Больш за ўсё напамінае яна эканамічныя сістэмы Балівіі, Эквадора, Парагвая.

Грамадства, галасуючы на г. зв. сацыял-дэмакратаў і аграрнікаў (пэзсэлёўцаў), спадзявалася рашучых гаспадарчых змен, спынення карупцыі і афрыканізацыі дзяржавы. Аказалася аднак, што існуючы гібрыд надалей набіраецца сілы і ўзмацняецца. Ствараецца такім чынам дзяржава для 5-10 працэнтаў грамадзян. А рэшта — таксама жыць будзе; па-старому, дзякуючы вядучым сілам народа за хлеб, за працу, за цікавую праграму ў тэлебачанні, за добрае надвор'е і за ўсё іншае.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЗАПРАШЭННЕ

**Biuro Organizacyjne**
**II Festiwalu Mniejszości Narodowych**
**80-828 Gdańsk**
**ul. Długi Targ 8/10**
**tel./fax 31-58-78**

**Szanowni Państwo.**

W Polsce mieszka ok. 450 tys. Białorusinów, ok. 450 tys. Niemców, ok. 300 tys. Ukraińców, ok. 5 tys. Żydów, ok. 15 tys. Litwinów, ok. 13 tys. Romów, ok. 6 tys. Greków, ok. 2 tys. Macedończyków, ok. 4 tys. Słowaków, ok. 2 tys. Czechów. Łącznie mniejszości narodowe liczą ok. 1,2 mln., co stanowi ok. 3% populacji.

Mniejszości narodowe — ich historia, tradycja, dorobek kulturalny oraz problemy, z którymi się borykają, są często zupełnie obce przeciętnemu Polakowi, a funkcjonujące o nich informacje opierają się na negatywnych stereotypach.

Asymilacja, próby dyskryminacji, przedmiotowe traktowanie dla osiągnięcia korzyści politycznych oraz problemy materialne to główne zagrożenia wszystkich mniejszości narodowych zamieszkujących Polskę i kraje Europy Środkowo-Wschodniej. Niedostrzeganie tych problemów prowadzi często do konfliktów na tle narodowościowym.

II Festiwal Mniejszości Narodowych jest prezentacją dorobku kulturalnego mniejszości narodowych. Głównym celem Festiwalu jest przybliżenie polskiemu społeczeństwu kultury, historii i współczesnych problemów mniejszości narodowych. Nie można być przyjacielem Litwinów nie wiedząc, że istnieje literatura litewska, nie można odrzucić stereotypów Ukraińca i Niemca bez żywego kontaktu ze sztuką tych narodów. Wzajemne poznanie i zbliżenie Polaków z mniejszościami narodowymi mieszkającymi w Polsce jest jedyną drogą do stworzenia społeczeństwa otwartego i państwa tolerancyjnego.

Gośćmi Festiwalu będą przedstawiciele mniejszości narodowych z krajów sąsiadujących z Polską, wśród których szczególne znaczenie dla idei zbliżenia społeczeństwa polskiego i mniejszości narodowych, ma mniejszość polska z Litwy, Ukrainy i Niemiec. Nawiązanie kontaktów umożliwi współpracę i wspólne działanie w przezwyciężaniu problemów.

II Festiwal Mniejszości Narodowych jest skierowany do szerokich rzesz społeczeństwa polskiego. Zależy nam przede wszystkim na dotarciu do jak największej liczby młodych ludzi, dla których w programach nauczania brakuje miejsca na informacje o historii, kulturze i dniu dzisiejszym mniejszości narodowych. Różnorodny i bogaty program Festiwalu jest pomyślany w ten sposób, aby każdy mógł w nim znaleźć coś interesującego. Festiwal będzie prezentacją wszystkich form począwszy od tradycyjnego folkloru po awangardowe postmodernistyczne działania. Festiwal jest również okazją do nawiązania nowych znajomości pomiędzy poszczególnymi organizacjami, instytucjami oraz osobami prywatnymi.

Udział w organizacji II Festiwalu Mniejszości Narodowych proponujemy wszystkim organizacjom i osobom, którym bliskie są ideały zbliżenia i otwarcia między narodami w Europie Środkowo-Wschodniej. Dla rozpropagowania idei Festiwalu staramy się pozyskać środki masowego przekazu (lokalne i ogólnokrajowe stacje telewizyjne i radiowe z Polski, Niemiec, Ukrainy, Białorusi, Litwy, Słowacji oraz lokalną i ogólnokrajową prasę). Liczymy na szeroki rezonans społeczny naszego przedsięwzięcia.

Przy realizacji II Festiwalu Mniejszości Narodowych współpracują ze sobą w ramach Komitetu Organizacyjnego, organizacje reprezentujące trzy największe mniejszości narodowe w Polsce (Białorusinów, Niemców i Ukraińców), ponadto jesteśmy w stałym kontakcie z organizacjami pozostałych mniejszości. Taka forma współpracy zapewni Festiwalowi pełną reprezentatywność i szerokie ujęcie tematu mniejszości narodowych.

Zapraszamy Państwa do współpracy, jesteśmy otwarci na ciekawe pomysły i inicjatywy.

**Komitet Organizacyjny:**

Związek Ukraińskiej Młodzieży Niezależnej

Związek Ludności Pochodzenia Niemieckiego w Gdańsku

Białoruskie Towarzystwo Kulturalne „Chatka" w Gdańsku

Fundacja Rozwoju Kultury „Kontakt"

# БЕЛАСТОЦКАЕ КІНО

Дваццаць гадоў таму мой сябра з нашага II „а" класа беластоцкага I Агульнаадукацыйнага ліцэя, Мацей, стаў уладальнікам кінакамеры. Амбітны хлапец рашыўся тады зрабіць фільм. Сабраў паўкласа ў лесе на Пятрашах і стаў нешта здымаць. Галоўную ролю выконвала класная прыгажуня, Еля (дарэчы, ягоная будучая жонка).

У пятніцу, 4 лютага 1994 г., адбыўся вялікі агляд аматарскіх кінафільмаў, рэалізаваных у Беластоку ў гадах 1989—1994. Узнагароду „Газеты всплучэснай" за „найбольш сучасныя вартасці" заваяваў вучань беластоцкага I Агульнаадукацыйнага ліцэя, 17-гадовы Сэбастыян, за фільмовы эцюд „Элегія пра любоў".

Сапраўды, узнагароджаны фільм быў такі сам, як фільм майго сябра. Не ведаю толькі, што з гэтага вынікае. Ці гэта Мацей апярэдзіў на дваццаць гадоў сучаснасць, ці „Газета всплучэсна", насуперак сваёй назве, ад гэтай жа сучаснасці на дваццаць гадоў адстае.

Зрэшты, пра нейкі прагрэс у аматарскім кіно наогул цяжка гаварыць. Прагрэсіруючы, аматары становяцца прафесіяналамі, як гэта відаць у выпадку Пятра Паніквіцкага, пажарніка, але і студэнта 4 курса лодзінскай Фільмовай школы.

Як узнікаюць аматарскія фільмы, сведчыць прыклад і сюррэалістычнага вобраза „Інжынеры генетыкі" Тамаша Альханоўскага і Яна Туронка (з гэтых Туронкаў). Задума з'явілася ў аўтараў аднойчы ў парку Браніцкіх, дзе яе і рэалізавалі. На жаль, задумы хапіла сапраўды толькі на пачатак фільма.

Падобным чынам нарадзілася задума фільма „Вечна жывая Грабарка". Як успомніў яго аўтар Станіслаў Выспянскі: „Przyszedł do mnie Jurek i powiedział, że jest taka impreza". Каманда Выспянскага зняла 20 гадзін матэрыялу, з чаго публіцы было паказаных 41 мінута і 5 хвілін. Змест фільма такі: група паломнікаў з Беластока ідзе на Грабарку, ідзе, ідзе, ажно даходзіць. Фільм таксама добра мог трываць 20 гадзін, як і 5 хвілін. Дык чаму якраз 40 хвілін? Магчыма таму, што фільм аказаўся „камерцыйным" і проданых было 40 касетаў, як можна дадумацца, сярод знятых удзельнікаў паломніцтва.

Я затрымаўся якраз над гэтым фільмам, бо гэта быў адзіны твор, які прадстаўляў „мясцовую спецыфіку". З некаторых цяжка было дадумацца, ці яны зроблены не толькі ў Беластоку, але наогул у Польшчы. Пэўна ж таму і праваліўся сярод публікі, найбольш амбітны паводле маштабу фільм, мастацкі вобраз „Анабэл" Енджэя Пагажэльскага, якога героі называюцца Анабэл, Алёша, Баз, Каралін, а жывуць чорт ведае дзе.

Праваліўся таксама відэакліп Пятра Кшыўца „У-2" пра славуты рок-гурт, найбольш чаканы фільм агляду. Малады мастак заваяваў гэтым творам галоўны прыз на адмысловым агульнаеўрапейскім конкурсе, але тое, што падабаецца ірландскім музыкам, не мусіць падабацца беластачанам. Дарэчы, мне таксама не падабалася. Змест твора такі: аўтар і ягоны дзядзька, перааздетыя за сваіх ідалаў, увесь час прытвараюцца, што выконваюць іхнія творы. Гэтая глыбіня ідэнтыфікацыі, відаць, і спадабалася сапраўднаму рок-гурту „У-2".

Магчыма, зраблю занадта грунтоўную выснову, але здаецца мне, што агляд пацвердзіў каланіяльны характар „вялікага горада Беластока". Сапраўднае жыццё можна было сустрэць толькі ў некаторых творах Пятра Паніквіцкага (але якраз ён найбліжэйшы сапраўднаму прафесіяналізму).

У нас, калі творцы з Варшавы, з Гданьска прыязджаюць на Беласточчыну ў пошуках арыгінальных сюжэтаў, мясцовыя самадзейнікі, як палякі, так і беларусы, займаюцца сюррэалізмам або „чыстаю формаю". Шкада, што калісь не ўдалося (або не было дадзена) Віктару Стахвюку стварыць пры БГКТ сваю беларускую фільмовую школу.

Такім чынам, ад агляду засталося мне задавальненне з адной прычыны: я з'яўляюся акцёрам у фільме, які на дваццаць гадоў апярэдзіў беластоцкую сучаснасць.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

P.S. Дзеля журналісцкага абавязку адзначаю, што ўзнагароду публікі (на якую скінуліся самыя творцы, іхнія супрацоўнікі, сябры, сем'і і знаёмыя) заваяваў фільм „Першы крок у хмарах" Пятра Сурмачынскага. Вобраз сам сабою цікавы, але рэалізаваны занадта літаратурнымі (Гласка), а замала фільмовымі, сродкамі.

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## II. Геалагічная будова, карысныя выкапні і рэльеф.

Беларусь займае заходнюю частку Усходне-Еўрапейскай раўніны, якая ў геалагічных адносінах уяўляе сабой платформу. Пад асадкавымі пародамі ляжаць граніты, гнейсы і іншыя крышталічныя пароды, што складаюць фундамент платформы. На большай частцы Беларусі (цэнтр і паўночны захад) яны ўтвараюць падземнае ўзвышша, якое называецца Беларускім крышталічным масівам.

Пароды фундамента сфарміраваліся ў архейскую і пратэразойскую эры. Асадкавыя пароды розныя па ўзросту: на поўначы Беларусі шырока распаўсюджаны палеазойскія пароды (дэвонскія), у сярэдняй і паўднёвай частцы — мезазойскія (мелавыя) і кайназойскія.

На ўсходзе рэспублікі крышталічныя пароды залягаюць вельмі глыбока. Тут жа ўтварылася глыбокая Аршанская ўпадзіна, якая запоўнена асадкавымі пародамі. На паўднёвым захадзе і на паўднёвым усходзе крышталічныя пароды таксама ідуць на глыбіню і ўтвараюць Брэсцкую і Прыпяцкую ўпадзіны. Толькі ў Цэнтральным Палессі паміж абедзвюма ўпадзінамі падземны крышталічны фундамент узвышаецца, утвараючы Палескую седлавіну. Слой асадкавых парод тут танчэйшы. Ёсць месцы, дзе крышталічны фундамент выходзіць амаль на паверхню (Мікашэвічы).

З геалагічнай будовай цесна звязаны рэльеф Беларусі. Велізарны ўплыў на яго фармаванне зрабіла старажытнае абледзяненне. У час некаторых стадый абледзянення тэрыторыя Беларусі амаль поўнасцю пакрывалася ледавікамі, якія прыбылі са Скандынаўскага паўвострава. Ледавіковыя адклады з валуноў і галькі, перамешаныя з глінай і пяском, называюцца марэнай, а ўтвораны ледавікамі рэльеф — марэнным рэльефам. Сляды старажытнага абледзянення — гэта марэнныя ўзвышшы і ўзгоркі, ледавіковыя азёры, валуны на палях і лугах.

У рэльефе краіны адносна роўныя мясціны чаргуюцца з узгоркамі. Пераважаюць прасторы з абсалютнымі вышынямі да 200 м — нізіны. Найбольш нізкія мясціны з адзнакамі вышынь да 150 м над узроўнем мора займаюць прыкладна 1/3 тэрыторыі Беларусі. Плоскія або злёгку хвалістыя ўчасткі мясцовасці, размешчаныя на вышыні ад 150 да 200 м над узроўнем мора, прынята называць раўнінамі. Раўнінамі заняты найбольшыя па плошчы прасторы — 1/2 тэрыторыі. На ўзвышшы прыходзіцца 1/5 часткі плошчы рэспублікі.

Найбольш узвышана цэнтральная частка Беларусі, дзе ад заходніх граніц на ўсход паласой распасціраецца Беларуская града. Рачнымі далінамі яна расчлянена на асобныя ўзвышшы. У пасярэдняй частцы Беларускай грады знаходзіцца Менскае ўзвышша з абсалютнай вышынёй 346 м (гара Дзяржынская). На поўнач і поўдзень ад Беларускай грады мясцовасць паступова зніжаецца. Да поўначы ідуць Полацкая і Нарачана-Вілейская нізіны. К поўдню хвалістыя Цэнтральна-Бярэзінская і Аршана-Магілёўская раўніны плаўна пераходзяць у Палескую і Прыдняпроўскую нізіны. Палеская нізіна — водна-ледавіковага паходжання і складзена пераважна пяскамі. На ёй шмат балот.

Размяшчэнне ўзвышшаў у цэнтральнай частцы рэспублікі шмат у чым супадае з падняццем крышталічнага ўзвышша, нізін — з размяшчэннем глыбокіх упадзін.

З карысных выкапняў найбольшае значэнне маюць калійная і каменная солі. Радовішчы солей знаходзяцца ў цэнтры Палесся (Салігорск, Старобін, Давыд-Гарадок, Петрыкаў, Мазыр). Залягаюць яны на глыбіні 300—500 м і адносяцца да дэвонскіх парод. Агульныя запасы калійных солей складаюць 6,3 мільярда тон.

На паўднёвым усходзе Беларусі, у раёне Рэчыцы, знаходзяцца залежы нафты і нафтавага газу. Яны таксама адносяцца да дэвонскіх адкладанняў і залягаюць на глыбіні 2500—3500 м.

На поўдні і захадзе краіны ёсць радовішчы бурага вугалю (Гомельская і Брэсцкая вобласці). У паўднёвай частцы Менскай і на захадзе Гомельскай абласцей вядомы залежы гаручых сланцаў.

Важным відам мясцовага недарагога паліва з'яўляецца ў Беларусі торф (асабліва ў яе паўднёвай частцы).

Беларусь багата мінеральнымі і будаўнічымі матэрыяламі. У многіх месцах ёсць вапнякі, даламіты і белая крэйда. Амаль усюды сустракаюцца гліны, будаўнічыя пяскі. Шкляных пяскоў больш за ўсё на ўсходзе Гомельскай вобласці.

У заходняй частцы краіны геолагі адкрылі радовішчы жалеза, тытану і рэдкіх металаў. У раёне Карэліч яны залягаюць на глыбіні каля 150 м.

**Ю. БАЕНА**

## Новыя вершы

*БАРЫС РУСКО*

**НА АДХОНЕ**

Калі, стоячы на адхоне,
гляджу прад сябе,
таплюся да кроплі блакіту.
Вабную чару бяру,
што за гарызонтам,
і п'ю ў бяспамяцтве змесціва,
якое, насуперак майму жаданню,
уцякае з маіх пачуццяў.

А глыба пад нагамі ўсё цвярдзее.

**НІКОЛІ АДНОЛЬКАВА**

Між цемрай — кагорта туманнасцей.
Між зоркамі — гуд пер'я.
Расчапераныя камлі крылаў
павернутыя да зямлі.
Не мёртвыя — заблудзілі б
у гушчыні вуліц.
Не жывыя — загінулі б
у любоўнай гульні
на абочыне каменя.
Як коні ашалелыя ў целе маланак
сякуць прастору напрасткі.
Ніколі аднолькава —
у розных строях
гараць прагай квітнення.

**ЦІ ВЕДАЕШ...**

Ці ведаеш, якая гэта сіла —
каранаваныя ўшчэнт агаляе качаны,
прагна ўпіваецца ў вусны смерці,
то зноў уладкоўвае яе на кол.
Ці ведаеш, якая гэта сіла?
Ці ведаеш?
Яна ўва мне і поруч, —
бо кахаю.

Ці ведаеш, якая гэта сіла —
кладзе пад ногі неабдымны свет,
у адчаі белым зоркі гасіць,
то дорыць кветкі небу і зямлі.
Ці ведаеш, якая гэта сіла?
Ці ведаеш?
Яна ўва мне і поруч,
— бо кахаю.

**КАРЦІНА**

Вось карціна. Голая. Без рам.
Без грыму.
Кіслая, як воцат, пячэ зрэнку
збыткам адзення блазна.
Пляма атруты з
хлява заўчарашняга
бяльмом абляпіла дзень.
Вар'яцкім усціласе покрывам
кожная жменя зямлі.

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**ЦЕНЬ**

я — непаўторнасць
я — адзін
я — трохвымерны сон матэрыі
ты што за мной сташ
чужы
як месяцу святло чужое
твая рука
яна мне мёртвай
не зможа болю перадаць
хаця запісана у зорках
і кінута святлом на плечы
цябе кахаць
о чалавеча

**ЧАМУ ТЫ ВОРАГ**

вораг мой о чаму ж ты вораг
страляю да цябе і плачу
і ўсё прашу трапляй снарад у сэрца
свінцовых руж букет цвіце ў прасторах
а вочы мацярэй зноў бачаць
як братаюць нас доўгія далоні смерці
за неба чыстае над лесам
наша смерць
за неба жмурнае над лесам
наша смерць
вораг мой о чаму ж ты вораг
страляю да цябе і плачу
падае куля зоркай на пагоны
у акоп з акопа раскірэчыў ногі золак
прабач мне брат і я табе прабачу
пакуль ад'едзем
у бацькоўскі край
зялёны

**ПУШЧА**

хто цябе выкаваў
о лес зялёны
молатам-промням
на кавадле гарызонта
і наказаў скалой
стаяць
майстар у геніяльнасці
шалёны
што не баяўся вечнасці
стварыць

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

**ПРЫСТАНЬ**

Заглянуў сягоння праз дзверы старонкі,
падумаў хвілінку: — А, можа, купіць?
Не змог аніяк,
таму што у сэрцы
дзяцінства голас наўкол так крычыць:
Здавалася Табе!
— я ж не босы
ў рай за прашэннем зайшоў! —
А Ты, як кветка ў вазоне
цвіла ў слабоцкіх „парусоў".

Думаў, дарога перада мною
сцелецца ружай знізу ўгару,
тут мая прыстань,
хаця згэтуль гора,
вось тут вячэры вам навару...

**ДЗЯЦІНСТВА ДЭМАКРАТЫІ**

Чаму так цяжка Вам прызнацца,
Каму зварылі боршч з бяды?
Самі жылі Вы у палацы,
Мне бракла хлеба і вады!

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З гісторыі Беларусі

## НАВАГРАДАК

Наваградак — адзін з найбольш старадаўніх беларускіх гарадоў. Багатая гісторыя хавецца за сівымі стагоддзямі. Ніхто адназначна не можа адказаць: адкуль пайшла сама назва? Існуюць фальклорныя паданні, гістарычныя гіпотэзы, якія спрабуюць асвятліць гэтае пытанне. Паводле аднаго з паданняў вынікае, што на месцы сённяшняга горада ўзвышаліся высокія пясчаныя высы — груды. Людзі сяліліся непадалёку ад іх даўно, бо ў лясах і рэках было многа звяроў і рыбы, ды і землі навокал былі надзвычай ураддівыя. Але вось на саміх грудах нічога не рабілі і не будавалі, бо была гэта свяшчэнная мясціна тутэйшых плямёнаў. Менавіта тут, на адной з выспаў, прыносілі яны ахвяры сваім суровым язычніцкім багам. Што толькі не пабудуюць ля капішча, як падчас бліжэйшай навальніцы блісне маланка, вуркатлівa грымне гром і ўсё дашчэнту выгарыць. Паспрабуюць зноў, і зноў тое ж самае.

Тады зразумелі мясцовыя людзі, што гэты куточак іхняй зямлі абралі магутныя высокія багі для свайго зямнога жыцця. Таму нават без асаблівай патрэбы на груды стараліся не заходзіць, а толькі падчас прынясення ахвяраў. Не адну сотню гадоў гэтак доўжылася. Прызвычаіліся жыхары і ўсё рабілі так, як ім перадавалі іхнія продкі.

Паступова паселішчы навокал выспаў станавіліся ўсё буйнейшымі, але груды па-ранейшаму не засяляліся. І вось аднаго разу самаму галоўнаму вешчуну ля язычніцкага свяцілішча прыснілася падчас кароткага і трывожнага сну, што нейкі высачэзны, велічны стары ў белай палатнянай кашулі і з агністым вянком на галаве сказаў яму:

— Пачні будаваць горад на святых грудах і імя тваё будзе жыць у стагоддзях! Цябе будуць згадваць нашчадкі!

Ачнуўся вяшчун, а сон перад вачамі стаіць. Пачаў ён узводзіць першую будыніну на грудах. Сам усё рабіў, бо астатнія баяліся, што маланка спаліць. Але абышлося. Тады і іншыя пачалі будавацца побач. А само паселішча так і назвалі — Новы гарадок, некаторыя гаварылі крыху па-іншаму — Новы грудок. З цягам часу назва трансфармавалася ў Новагарадок, або Наваградак.

АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ



*Вучаніцы са школы ў Аўгустове са сваёй настаўніцай беларускай мовы Ірынай Хадакоўскай.* Фота М. Сахарэвіча

## ДЗЕ ЖЫВЕ В?

Вырашыў Ваня вывучыць **В**. Выпісаў „Вясёлку". Вышуквае словы з **В**.

У кватэры — вазон, ванна, вешалка, вагі, валёнкі, вусаты вуркоцік.

На стале — варэнікі, варэнне, ватрушкі, вінаград, ваза, вермішэль, відэльцы.

У лесе — вольха, вёрткая вавёрка, варона, воўк, ваўчыца, ваўчаняты, вожык, вуж, вужаняты.

Выйшаў Ваня на вуліцу. Валера з вудамі выпраўляецца на возера.

— Валерык, што ў цябе на вачах?

— Акуляры.

— На вачах васьмёркай выгінаецца **В**.

— Ваня-выдумляка.

— А ты — Алерык.

— Чаму?

— Вывудзі са свайго імя **В** і ты — Алерык.

Валера выкрыквае:

— Ведаю, ты не Ваня, а — Аня!

Вясна высвечвае вяснушкі на твары ў Валеры. Ветлівы ветрык варушыць валасы. Вачаняты ў выдумшчыка вясёлыя.

Ваня вязе на веласіпедзе Валеру з вудамі, вырульвае да возера. Выганам ідзе выхавацелька, вітаецца.

— Мы **В** вывучылі, — выхваляюцца Ваня і Валера.

— Выдатна. Вытрымайце выпрабаванне.

— Давайце, вытрымаем!

Выхавацелька вымалёўвае восем **В**:

— Калі правільныя адказы ўпішаце ў гарызантальныя клетачкі, то па вертыкалі прачытаеце прозвішча вядомага героя вясёлай казкі Васіля Віткі.

1. Пасудзіна для кветак.
2. Пара года паміж зімой і летам.
3. Месяц, у якім пачынаюцца заняткі ў школе.
4. Хоць не птушка — лётаць можа, памагае хвост прыгожы.
5. Домік, у якім жывуць пчолы.
6. Будынак для пасажыраў на чыгуначнай станцыі.
7. Садовае дрэва з чырвонымі ягадамі.
8. Вучань, які мае ўсе пяцёркі.

Задумаліся Ваня і Валера.

А вы?

УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ

*Вершы Віктара Шведа*

### ПАЧАЎ ТАТКА ЦЯМІЦЬ

Прыбег па занятках
Сыночак да мамы:
— Нарэшце мой татка
Пачаў нешта цяміць!

— Ты стаў хвалявацца,
Сыночак мой мілы?
— Дамашняя праца
Мая без памылак!

### СВАЯ БАБУЛЯ, СВАЯ ПРАЦА

— Чысты абрус шануй, Людміла,
Мусіш з ядой асцерагацца.
Яго ж бабуля твая мыла,
Трэба цаніць чужую працу.

Крышку падумаўшы, малая
Адказвае дасціпна маме:
— Бабуля ж наша — не чужая,
Праца бабуліна таксама.

### ДАМАШНЯЯ НАВУКА

— Лёня, — спытала Міля, —
Ці можаш уявіць,
Калісь бацькі вучылі
Хадзіць і гаварыць.

Чамусьці, мілы Лёня,
Ужо наадварот:
Наказваюць нам сёння
Сядзець, замкнуўшы рот!

### КЛОПАТЫ ЎНУКА

Прыязджае з вёскі ў горад
Да дачкі сваёй Хвядора.
Адчыніў бабулі дзверы
Непаседлівы Валерык.

— Як жывеш? — спытала ўнука,
Як здароўе? Як навука?
— Маю клопаты з тваёю,
Бабуля, дачкою...

### КУПІ МНЕ МАЛПКУ

Тату сынок раненька будзіць:
— Купі малую малпку, татачка.
— Чым жа карміць, сынок, мы будзем
Тваё малое малпянятачка?

— Малпку ты мне купі такую,
Што ў заапарку сустракаюцца.
Там жа абвестка інфармуе:
„Малпаў карміць забараняецца!"

### ЛАГІЧНЫ АДКАЗ

З заўвагай настаўніка Лёня
Прыносіць дахаты дзённік:
„Слабая наша надзея,
Ваш сын нічога не ўмее".

Бацька адпісвае дома:
„Мне гэта добра вядома,
Таму ж я няўмеку Міколу
Да вас пасылаю ў школу".

## КРЫЖАВАНКА

| | А | Б | В | Г | Д |
|---|---|---|---|---|---|
| I | | 6 | | | 4 |
| II | | ▒ | | ▒ | 5 |
| III | | 3 | | | 2 |
| IV | | ▒ | | ▒ | |
| V | 7 | | | 1 | |

I — ловіць мышэй, III — складаецца з літар, V — там робім пакупкі.

А — кавалак, В — там вучацца дзеці, Д — другі пакос травы.

Літары з пазначаных клетак складуць рашэнне — назву асноўнай прылады дамашняга майстра.

Адказаў чакаем два тыдні.

## ЗА СТАЛОМ

З этыкетам паводзін за сталом неабходна знаёміцца і знаёміць іншых. Самы лепшы напамінак — свой прыклад.

* Ні ў якім выпадку не садзіцца за стол у шапцы (дзяўчынкам таксама).

* Не размаўляйце з поўным ротам ежы.

* Стол і посуд павінны быць чыстымі і пажадана прыгожымі — гэта ўплывае на настрой і апетыт.

* Суп ядуць лыжкай, правай рукой, левая пры гэтым ляжыць на стале, не на каленях.

* Відэльцам (без нажа), трымаючы яго ў правай руцэ, ядуць пасечанае мяса, агародніну, бульбу, макаронныя вырабы.

* Птушку ядуць, трымаючы рукой за костку. Рыбу — дзвюма відэльцамі.

* Відэльцам, трымаючы яго ў левай руцэ, і нажом ядуць мяса, адразаючы ад яго маленькія кавалкі.

* Торт, піражнае з крэмам ядуць маленькай лыжачкай.

* Папяровыя сурвэткі размяшчаюць у спецыяльнай падстаўцы. Сурвэткі з тканіны кладуць каля талерак. Пры ядзе сурвэтку з тканіны кладзем на калені.

* Нарэзаны хлеб падаецца на стол у хлебніцы альбо талерцы. Не прынята адкусваць ад цэлага кавалка. Лепш узяць кавалак хлеба, адламаць ад яго столькі, колькі вам неабходна.

* Пасля прыёму ежы відэлец і нож трэба палажыць на вашу талерку (не крыжаваць). Непрыстойна пакідаць недаедзеную ежу ў талерцы.

АЛЕСЬ

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 14

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Замкнутае кола

Гэта гульня — своеасаблівы варыянт „ланцужка”, але перамагае той, хто хутчэй знойдзе магчымасць сказаць першапачатковае слова — яму налічваецца ачко, і ён жа прапануе новае слова. У часе гульні кожны мае магчымасць набіраць ачкі — усё залежыць ад падбору слоў і ад уважлівасці.

### Аўкцыён

Вядучы аб'яўляе ўмову гульні, напрыклад, назваць гарады з першай і апошняй літарай *к*. Тры мінуты даецца, каб сабрацца з думкамі, і аўкцыён пачынаецца. Адзін з удзельнікаў гульні называе, скажам, *Курск*, а вядучы лічыць: *Курск* — раз, *Курск* — два, *Курск* — тры! — гульня скончана, усе ўдзельнікі ... прайгралі!

Вядома, быць можа, каб за час лічэння, пакуль не сказана *тры*, ніхто не ўспомніў патрэбнай назвы, напрыклад *Каменск*. Тады вядучы паўтарае новую назву — і г.д. А той, хто назву аб'явіў, выходзіць з гульні; тыя ж, хто застаўся, павінны адшукаць свае слова, каб не застацца ў ліку прайграўшых.

Можна дамовіцца браць не толькі ўласныя назвы, але і іншыя словы (*кулак — кіёск — коцік* і г.д.).

### Спрынт па складах

У кожнай камандзе столькі членаў, колькі можа сесці за адным сталом: каманд можа быць столькі, колькі сталоў.

Тур першы. Кожная каманда піша аднаскладовыя словы з *а* (*баль, на, пад, а, раз* і г. д.). Час — тры мінуты, па сігналу лісток (калі пішуць усе на адным, але лепш — на розных, дзеля эканоміі часу) здаецца ў журы, там выкрэсліваюцца паўтораныя ў гэтай камандзе словы і падлічваецца колькасць астатніх (для кожнай каманды асобна). Вынікі падводзіць журы.

Тур другі. Кожная каманда піша двухскладовыя словы з *а* (*мама, рамка, Шанхай* і г.д.). Запісваюць словы тыя, хто хутка і правільна піша. Падбіраюць словы ўсе члены каманды, нават і тыя, хто піша. Усе сочаць за правільнасцю запісаў і за тым, каб словы не паўтараліся. Журы правярае вынікі, а ўдзельнікі праводзяць наступны тур.

Тур трэці. Трохскладовыя словы з *а* (*сабака, Гавана* і г. д.). Лісткі каманды змацоўваюцца скрэпкай, перадаюцца ў журы для падвядзення вынікаў.

Тур чацвёрты. Чатырохскладовыя словы (*Кандалакша* і г. д.).

Можна праводзіць яшчэ пяты (*каракалпачка* і г.д.), шосты (*адрамантавана* і г. д.) і наступныя туры, але лепш у якасці дамашняга задання.

Час гульні трэба абмежаваць — аднолькавы для ўсіх тураў (3—5 мінут) або розны — па дамоўленасці. Лісткі здаюцца па сігналу. Ачкі налічваюцца ўсёй камандзе — па ачку за кожнае непаўторанае (у лістках гэтай каманды) слова. За памылку паўачка здымаецца.

Ёсць варыянт гульні, які называецца „вагончыкі”. Склады ў словах — як вагоны ў цягніку; стаяць адзін за адным і злучаны рыскай-счэпкай. Кожны ўдзельнік на лісце піша любое аднаскладовае слова (*дождж*), а пад ім — двухскладовае (*сшытак*), пад тым — трохскладовае (*ма-ла-ко*) і г.д. У каго атрымаецца самы доўгі „цягнік”?

Гульню можна праводзіць і так: выходзіць першы — гаворыць аднаскладовае слова, другі становіцца за ім, кладзе руку на яго пляча і прапануе двухскладовае слова, трэці — за ім і г. д. Трэба спяшацца, каб „папасці” ў які-небудзь „цягнік” (іх некалькі) і не застацца ў „тупіку”.

Як толькі „цягнікі” сфарміраваліся, усе зноў збіраюцца ў „дэпо” і пачынаюць нанова фарміраваць „цягнік”.

### Міні — максі

*Мінімум* — значыць найменшы, *максімум* — найбольшы, і ўжо зразумела, што гульня датычыць самых кароткіх і самых доўгіх слоў.

Першы тур праводзіцца без папярэдняй падрыхтоўкі; трэба за абмежаваны час запісаць найбольшую колькасць слоў-ліліпутаў, а затым за такі ж час — слоў веліканаў.

Час падрыхтоўкі да другога тура вымяраецца ўжо не мінутамі, а днямі. За гэты час трэба скласці два спісы слоў, кожны ў алфавітным парадку. Праверка: кожны чытае свой спіс у класе (гуртку) і растлумачвае значэнне слоў, калі ўзнікне пытанне. Кожнае слова — ачко, вычарпальнае тлумачэнне — яшчэ ачко; дадатковае ачко можна атрымаць за цікавае, рэдкае слова.

*(працяг у наступным нумары)*

# ЛІЧЫЛКІ

Эні, бэні, тры капторы,
Мы спаймалі ў лесе вора,
Сталі думаць і гадаць,
Як нам вора пакараць.
Мы звязалі рукі, ногі
І пусцілі па дарозе.
Хто ні едзе, хто ні йдзе,
Па капеечцы кладзе.
Нам капеечка не нада,
Зажмурыцца вору нада.

* * *

На стале ляжала міна,
Па-нямецку гаварыла:
— Эннік, бэнік, шмык,
Выйдзі, маленькі мужык.

* * *

За сцякляннымі дзвярамі
Стаіць Мішка з пірагамі.
— Здраствуй, Мішанька, дружок,
Колькі стоіць піражок?
— Тры капейкі з палавінай,
Ухадзі, дурак, з дубінай.

* * *

Дзеці, дзеці, дзетвара,
Уцякайце са двара.
Хто не захаваецца —
Крычыць „ура!”

* * *

Ішла дзевачка па рынку,
Наступіла на карзінку.
У той карзіначцы табак,
Хто закурыць, той дурак.

* * *

Ходзіць свіння па двару
І шукае лебяду,
А за свіннёй стары дзед,
Таму дзеду сорак лет.
Сорак, сорак, пяцьдзесят,
Выйшаў дзедушка-басяк.

* * *

Ішоў баран па бару,
Ірваў капусту, лебяду.
Што сарве, то у пучок,
Выйдзі вон, дурачок.

* * *

Плыла жабка па вадзе,
Хто-та злапе,
Той выйдзе.

* * *

Бег сабачка-галашыйка,
У яго борачка на шыйке.
То не борка — ланцужок,
Выйдзі, міленькі дружок.

* * *

Ішоў баран
Па крутым гарам,
Вырваў траўку,
Палажыў на лаўку.
Хто яе возьмець,
Той вон пойдзець.

# ШКЕЛЬЦЫ

## 4

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## ДЗІНА

Гэтая дзяўчынка з'явілася ў нашым класе пасярод навучальнага года, бо ляжала ў бальніцы. Ад нас усіх яна адрознівалася раннім фізічным развіццём і яркай знешнасцю ўсходняга тыпу. Мела Дзіна пышныя чорныя валасы па пояс, пульхныя чырвоныя вусны, нізкі лоб і чорныя вочы з цьмяным бляскам, нібы абведзеныя ценямі. Яе бацька быў азербайджанец. Дзіна жыла з ім і яго новай сям'ёй — мачыхай і зводным братам. Родную маці Дзіны забілі, калі тая вярталася дадому з начной змены.

Жылося Дзіне цяжка. Бацька быў чалавек распусны і круты, лупцаваў яе гумавым шлангам. Ад яго ж мела Дзіна шмат інтымных звестак з біялогіі чалавека, якімі шчодра дзялілася з намі. Запомніўся яе аповяд пра тое, як на Ленінскім праспекце, каля ГУМа, яе бацька за дзесяць рублёў „глядзеў кіно”, а ёй за пяць рублёў паказаў „мульцік”: кампанія маладых дзялкоў вадзіла голую дзеўку ў паліто, і за чырвонец яна паліто распахвала спераду, а за „пяцёрку” — ззаду. Дзіну бясконца крыўдзіла тая акалічнасць, што дзеўка паказала ёй толькі зад.

Дзіна захацела са мной сябраваць. Яна прысунула свой ложак ушчыльную да майго і да поўначы нешта расказвала нізкім гугнявым голасам. Нарэшце заснула. Але, на няшчасце, у Дзіны ў носе былі паліпы, і з яе рота ўсю ноч выляталі пранізлівыя квакаючыя гукі. А я тады спала вельмі чуйна і кепска. Дарэмна штурхала я Дзіну і змушала яе варочацца. Сярод ночы я пачала рассоўваць нашы ложкі як мага далей, аж пакуль мой не ўпёрся ў тумбачку, а Дзінін — у суседні ложак.

У класе Дзіну не любілі. Здавалася, яна не рабіла нічога кепскага, але яе абкружала нейкая нядобрая, нячыстая аўра. Цела з пышнымі формамі выклікала ў хлопчыкаў агідлівую цікавасць — Дзіне не пісалі запісак, не запрашалі на танцах і не прызнаваліся ў каханні, як іншым, не гэткім спелым дзяўчынкам. Часам хлопцы, дурэючы на перапынку, пачыналі па чарзе гладзіць яе па пышных валасах ці цмокаць у шчаку; Дзіна адбівалася, чырванела, пасля клала галаву на парту і рабіла выгляд, што плача (а можа, сапраўды плакала?), не зважаючы на дотыкі. І нам чамусьці не было яе шкада, чамусьці была ўпэўненасць, што Дзіне ўсё гэта прыемна...

Дзіна ўвасобіла для нас будучую дарослаць, напоўненую непрыгожымі сорамнымі таямніцамі. Дарослацсь адкрылася нам у самым непрыглядным выглядзе, і мы збаяліся яе, як інстынктыўна баяцца дзеці ўсяго нячыстага.

*(працяг будзе)*

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# Вясёлы куточак

— Віця, тваё сябры наракаюць, што ты вельмі скупы, ніколі ні з кім не падзелішся. Чаму ж гэта так? З намі, мамай і татам, ты заўсёды дзелішся.

— Так, мама. Бо вы ніколі нічога не хочаце браць, а яны заўсёды возьмуць.

* * *

Янка неяк прыйшоў у школу з моцна пабруджанай шыяй. Настаўніца, убачыўшы яго, выняла хустачку, змачыла яе адэкалонам, выцерла Янку пляму і паказвае:

— Што ты скажаш на гэта?

— Гэта і ёсць хімічная чыстка?

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**





*Параўнайце малюнкі. Хто найхутчэй знойдзе 15 адрозненняў? А, можа, іх тут яшчэ больш?..*

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

# У ЧЫЖЫКА

Гуляюць двое, абодва з палкамі, якія называюцца лаптою. Акрамя таго, робяць яшчэ кароценькую палачку, у чвэрць аршына, і завастраюць яе канцы. Гэта палачка завецца чыжыкам. Затым на зямлі чэрцяць круг або квадрат і адзін з ігракоў, каму прыйдзецца верх на палцы, становіцца з чыжыкам у круг, а другі ідзе ў поле. У крузе чыжык кладзецца на зямлю; ігрок б'е лаптой па востраму канцу яго, і чыжык падскоквае ўверх. У гэты час ігрок павінен ударыць яго так, каб ён паляцеў далёка ў поле. Калі ігрок прымусіць чыжыка падскочыць тры разы і не здолее загнаць яго ў поле, ён прайграў і сам ідзе з круга ў поле, а на яго месца становіцца палявы. Калі ж ён выганіць чыжыка ў поле, палявы павінен пераняць яго на ляту сваёй лаптой. Тады ён ідзе ў круг. Калі гэта яму не ўдасца і чыжык упадзе на зямлю, ён паднімае яго з зямлі і кідае ў круг. Калі пападзе, сам ідзе ў круг і выбівае чыжыка ў поле.

Дагаворваюцца звычайна на 50 ударэў. Хто першы зробіць столькі ўдараў, мае права прымусіць прайграўшага праскакаць на адной назе адлегласць ад поля да мяжы столькі разоў, колькі не зроблена ім удараў.

*ЯН ПЯТРОЎСКІ*

# З ТРЭЙЦЯЕ КНІГІ „МЭМУАРАЎ”

Сягоньня 4 чырвеня 1992 году. Падрыхтоўваючы матэрыял да трэйцяе кнігі *Мэмуараў* і, перачытваючы „Адказ на ліст”, усплыла ў маёй памяці беластоцкая „Ніва”.

У гэтай „Ніве” (н-р 20 (1879), 17 травеня 1992 г.) я, са зьдзіўленьнем для сябе, наткнуўся на інтэрв'ю, якое Мікола Ваўранюк, як прадстаўнік „Нівы”, праводзіць зь Нінаю Мацяш, каторую называе паэткай, а павінен назваць — як я гэта бачу — пачынаючым філёзафам.

На працягу свае дзейнасьці ў галіне філязафічнай, я ніколі і ад нікога з нас ня чуў гэтакіх адказаў, якія чую з вуснаў Ніны Мацяш, каторая за мэту свае дзейнасьці ставіць чалавека, як гэткага.

Перш, яна зрывае з традыцыйнаю ў нас банальнасьцю перапаўтараньня ўжо паўторанага.

„Я пішу мала, — кажа яна. — У мяне няма мэты стварыць кніжкі. Я пішу толькі тады, калі мне ўжо сапраўды хочацца нешта сказаць. Мая тэма — гэта чалавек, яго суадносіны да іншых людзей, вымярэньне нейкіх духовых каштоўнасьцяў. А ўсё іншае, што ў мяне атрымліваецца, яно атрымліваецца на мяжы маіх магчымасьцяў. Я ня думаю, што я не паўтараю некага — думаю, што мае вершы пераклікаюцца, можа дзесьці паўтараюць каго, але я мушу гаварыць, таму што гэта маё”.

На пытаньне, як яна чуецца, болей паэтэсай ці перакладчыцай, Ніна адказвае:

„Я нават ня ведаю, кім я больш пачуваюся, паэткай ці перакладчыцай. Магу толькі сказаць — перакладаю адно тое, што блізка мне”...

Важны мамэнт:

Пытаньне, ёсьць яна болей паэтэсай ці перакладчыцай? І запытаная адказвае, што яна ня ведае, кім яна больш пачуваецца, паэткай ці перакладчыцай.

Мне нават няведама, дзе ляжыць розьніца дэфініцыі канцэптаў — паэтэса і паэтка. Недзе мусіць быць. І яна ёсьць.

У сваей працы і пісаць, і перакладаць, наслухаўся я даволі папрокаў у тым сэнсе, што мусіць ёсьць розьніца паміж пісаць арыгінальную працу або перакладаць. І гэта пераважна з вуснаў недалёказыркіх людзей. Бо, калі-б яны хоць крышку падумалі, яны жахнуліся-б са сваіх новых выкрыцьцяў.

Сягоньня нікому зь іх і ў голаву ня прыходзіць, што, пачынаючы ўжо з нашага альфабэту, яны выкрылі-б, што „наш” альфабэт зусім ня ёсьць нашым, а проста жыўцом узяты ад грэкаў; што ўсе знакі, якія мы называем цыфрамі, зусім не зьяўляюцца сваім паходжаньнем беларускімі; што Новы запавет як і Стары — гэта вынік перакладаў зь іншых моваў; што ўсё тое, сягоньня называецца беларускаю літаратураю, ёсьць нічым іншым як запазычаньнем з грэцкае мовы разам зь ідэямі і тэхнікаю запазычаньня і пісаньня наагул. І тое, што тут сказана пра беларускую літаратуру, можна сказаць пра кажную іншую ведамую нам.

Можна зарызыкаваць цьверджаньне, што тыя нашыя старыя хрысьціянскія тэксты (як пачатак пісьменнасьці) гэтаксама не намі вынайдзеныя і ня былі арыгінальнымі, а толькі або перакладамі або пачутымі.

Няма тутака месца раскрыць тую праўду, што ўся расейская літаратура (проста для аналёгіі) абапіралася на перакладах кляснычнае грэцкае літаратуры і згэтуль выплываючага расьцьвету рымскае літаратуры, а ў часе, калі Пётра Вялікі абрэзваў расейскім мужыком бороды і пазьней, уся культура пераймалася з нямецкага сьвету („Половой вопрос”, для прыкладу, А. Г. Форэля).

Пасьля надыйшла мода перайманьня ўсяго таго, што насіла на сабе французскую азнаку.

А семдзесят апошніх гадоў з гакам зноў прыносяць зварот у бок нямецкі з карламарксаўскім захварбаваньнем.

І перайманьне гэтае зьяўляецца натуральным працэсам.

Вершы?

Вершаў у нас, з нязначнымі выняткамі, хоць венікам вымятай. І стаецца гэта зь дзьвюх прычынаў.

Першая: кажны чалавек, каторы хоць крышку ўмее чытаць і пісаць, можа, калі ўжо ўпрэцца, напісаць (выбачайце — стварыць) верш, а калі да яго яшчэ іншы ды плюс псэўдонім — тады адыстар паэт выходзіць.

Другая знаходзіцца ў народнай праўдзе, якая кажа: На бязрыб'і і... „Тарас на Парнасе” стаецца рыбаю.

Той, хто будзе пісаць паводля гэтага шаблёну, таго будуць праслаўляць у Маскве і Варшаве. Калі-ж нехта зломіць гэты шаблён і скажа разумнае слова, таго ў Маскве вышлюць у Сібір, а ў Варшаве — у Павяк.

Вярнемся да рэчы. Калі паважаная Ніна Мацяш хоча заняцца тэмаю Чалавек, тады адзіны шлях ёсьць — гэта старажытная грэцкая культура, на якой базуюцца даслоўна ўсе людзі пяра. Гэтым шляхам крочылі, сярод іншых, і Хведар Дастаеўскі, і Леў Талстой. Нешматлікія ведаюць ягоны твор у чатырох томах п. т. „Круг чтения”. Часамі гэты твор называюць Трэйцім Запаветам. Ідучы гэтым сьледам, Ян Пятроўскі апрацаваў і выдаў аналягічную працу п. т. „Лепшыя думкі чалавека” ў трох томах.

Гэтулькі ў духу сяброўства.

Чытаючы тое, што Ніна Мацяш ніжэй гаворыць, яна заслугоўвае поўнае наша ўзнаньне і нашу заахвоту з пажаданьнямі творчае будучыні.

А яна кажа:

„Мне хацелася-б, каб у нас зараз была больш духоўная літаратура, таму што ўся гэтая публіцыстыка, уся гэтая сацыяльная заангажаванасьць — часовыя зьявы, хутка прамінаюць. Пройдзе нейкі час — і гэта будзе цікавае толькі гісторыкам, як памятка дзён. А ці з яго застанецца нешта, каб было цікавае іншым рэгіёнам Эўропы, сьвету? Паэзія павінна быць менш публіцыстычная, больш філасофская. У нашых умовах патрэбнае і гэтае змаганьне за мову, патрэбныя яркія словы, патрэбен Пімен Панчанка са сваёй агаленай публіцыстыкай. Але асабіста мяне гэта стаміла, мне яно не патрэбнае, мяне гэта не цікавіць. І ўвогуле дзіўная зьява адбываецца са мною. Мне не хочацца чытаць белетрыстыку. Можа проста таму, што адбываецца нейкі духоўны паварот у самой сабе, паварот да каштоўнасьцяў. Я пачала знаёміцца з філасофіяй Усходу — гэта зусім іншы сьвет, іншае разуменьне чалавечай прыроды, яго ўвогуле месца на зямлі, сэнсу існаваньня, сувязяў з Космасам”...

Калі Ніна крытычна падыходзіць да публіцыстыкі і бэлетрыстыкі — дык гэта-ж духовая рэвалюцыя! Тут „адбываецца нейкі духовы паварот у самой сабе”. У сьвеце філязофіі гэта называецца нованараджэньне, якое прыходзіць само сабою. І ўсё іншае стаецца безвартасным.

Але, гаспадарыня Мацяш, гэта не дасцца так проста, як можа выглядаць. Трэба быць рашучым і ўпорыстым і быць падрыхтаваным да зьявішчаў балючых і мець сілу волі ў сабе, каб адбіць напасьнікаў з усіх бакоў і быць гатовым на ўсё. Шматлікіх з гэтых змушалі піць атруту (Сакратас), іншых укрыжоўвалі, яшчэ іншых змушалі публічна становіцца на калені і выракацца з грахоў, якіх яны ня мелі за сабою (Галілеі Галілео).

Але з другога боку, паважаная Ніна Мацяш, ня трэба забывацца, што толькі гэтакія людзі, каторыя казалі слова праўды і цярпелі — яны тварылі пэрыяды агульнага культурнага поступу для сваіх народаў, як і для людзкасьці наагул.

*Тэкст друкуецца згодна з правапісам аўтара.*




## АСЯРОДАК БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Вельмі добра, што „Ніва” (30. I. 1994) загаварыла пра Цэнтр беларускай культуры (ЦБК) у Польшчы, бо гэта вельмі важная справа для ўсіх беларусаў. Дзе размясціць гэты ЦБК, дзе знайсці для яго памяшканне? Найлепей было б у Беластоку, усё ж такі — сталіца ваяводства і рэгіёна беларускага насельніцтва. Але ў Беластоку няма памяшкання. Хтось прапанаваў, каб ЦБК размясціць у Беларускім музеі ў Гайнаўцы. На маю думку гэта прапанова добрая. Спадар Махнацкі піша: „Аднак факта, што ўжо ў Гайнаўцы стаіць агромністы будынак Беларускага музея, у якім можна было б размясціць цэнтр, недастатковa!" Якраз наадварот — дастаткова, бо там хутка можна сарганізаваць ЦБК і гэта найважнейшы аргумент. А як калісь спрытны спадар Махнацкі знойдзе для ЦБК памяшканне ў Беластоку, хутка перавязем ЦБК у Беласток. А пустую гаворку пра ЦБК можам весці яшчэ з 10 гадоў, а можа і больш. ЦБК ужо патрэбен. Спадар Махнацкі, нязгодны арганізаваць ЦБК у Гайнаўцы, далей піша, што „гайнаўскія дзеячы ствараючы ў сябе ЦБК, толькі сабе арганізуюць месцы працы”. Ну і добра! А каму яны павінны арганізаваць месцы? Французам? А каб у ЦБК удалося ім сарганізаваць 2000 месцаў працы, то і ліквідавалі б беспрацоўе ў Гайнаўцы. І яшчэ адзін аргумент спадара Махнацкага, каб ЦБК не арганізаваць у Гайнаўцы, бо там малы працэнт вучняў вучыцца беларускай мове і пытае: „Ці хтосьці падумаў, якія людзі будуць ствараць цэнтр ў Гайнаўцы?” Я думаю, што пакуль мы будзем спрачацца, якія людзі будуць ствараць цэнтр у Гайнаўцы, хлапчукі, якія цяпер вучацца роднай мове, хоць іх і мала ў Гайнаўцы, падрастуць і створаць ЦБК.

А калі ідзе пра навучанне беларускай мовы, то гайнаўскія беларусы стаяць значна вышэй за беластоцкіх, бо ў Беластоку няма ніводнай школы з навучаннем беларускай мовы. На паследак яшчэ адна справа. Ніколі, у ніводнай дыскусіі не чуў я, каб гаварылі цэнтр беларускай культуры, заўсёды гаварылі асяродак. Думаю, што так павінен ён і называцца.

**ЮЛЬЯН КАЗБЯРУК**

## ДВАЦЦАЦЬ ПЯТАЯ ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАЎКА ТАМАРЫ ТАРАСЕВІЧ

Рыхтавалася яна ў Гародні, ад 17 снежня 1993 года. Выставачную залу па вул. Ажэшкі, 38, на месяц аплаціла Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь — пара ўжо паказваць і хваліцца перад суродзічамі таленавітымі беластачанамі і дапамагаць ім (а як "умела" гэта робіцца ў Беларусі, можна ўспомніць пры нагодзе выставы Лёніка Тарасэвіча ў Менску ў мінулым годзе). Гродзенская абласная арганізацыя Саюза мастакоў Беларусі выслала запрашэнне нашай мастачцы, перадаючы яго на рукі аднаго з беластоцкіх прадпрымальнікаў. Той аддаў яго, несвядомы, у Саюз польскіх артыстаў-пластыкаў, той жа самы, якога члены нагамі і рукамі запіраюцца прыняць „аматарку” Тарасевіч у свае рады, нягледзячы на яе рэферэнцыі і рэцэнзіі аўтарытэтаў. Вядома, запрашэнне не пакінула сцен сядзібы саюза. З дапамогай Кастуся Майсені было аформлена другое запрашэнне, на Беларускі музей у Гайнаўцы.

Узялася мастачка рыхтаваць усе „паперы”, без якіх неабходна вывезці за мяжу і прывезці назад карціны (ёсць спецыяльныя законы аб ахове скарбаў культуры), з усімі дадаткамі, пасведчанымі аддзелам мастацтва Акругования музея ў Беластоку, дадаткамі мытнымі, афармленымі на мытні ў Беластоку, спіскам і апісаннем прац (памеры, тэхніка выканання, загалоўкі, кошт кожнае — разам 38 прац). Нанялі машыну з шафёрам, загрузіліся і рушылі на ўсход. Досыць хутка (у гадзіну) афармілі справу на польскай мытні („грузавыя” афармляюцца з польскага боку, „легкавыя” з беларускага, гэта так для палягчэння працы мытнікаў і пагранічнікаў). На беларускім баку, калі мастачка падала мытніку дакументы, той сцвердзіў: „Бумаги плохие”. Спробы даказаць сапраўднасць дакументацыі аказаліся безвыніковымі. Тамара Тарасевіч прасіла, каб растлумачылі ёй, чаго ў поўнай дакументацыі не хапае. Адказалі, што не яна будзе іх вучыць, што яны маюць рабіць на мяжы. „Мы лучше знаем, что делать!” Тры гадзіны прабавала мастачка дастацца да начальніка змены. „Ты пишы даже министру! — злаваўся мытнік. — Мы тебя сейчас успокоим!” Урэшце, неяк прадзерлася да начальніка з просьбай дапамагчы. Суровы спадар у акулярах выслухаў моўчкі яе слязлівае выступленне і, не выходзячы з будынка, каб паглядзець, як справы маюцца і што вязе мастачка, буркнуў: „А какую контрабанду ты хочешь ввезти?” Мастачка вырачыла вочы: якую ж яна кантрабанду вязе?! Хіба што нейкія беларускія ідэі ў жывапісі, ці што?.. А начальнік растлумачыў: „Вот ты хочешь ввезти свои картинки, а вывезешь нам Айвазовского!” „А як жа я вывезу Айвазоўскага?” — наіўна здзівілася Тамара. „На картине Айвазовского распишешься, вот что!”.

Прыйшлося павярнуць назад. Польскія мытнікі, не разумеючы, у чым справа, афармілі паперы пра тое, што „кантрабанду” вярнулі назад — całkowita likwidacja odprawy czasowej. Вядома, са ўсімі „маніпуляцыйнымі” аплатамі. Мастачка страціла шмат часу, здароўя і грошай, што для яе, асобы без пастаянных заробкаў, мае немалое значэнне. Найбольш баліць, аднак, уніжэнне маральнае.

Гэта мела быць 25, юбілейная, персанальная выстаўка Тамары Тарасевіч.

— Не паеду я больш у беларускім напрамку, адабралі мне ахвоту, — кажа цяпер. — Чаго нам да іх ехаць?

**МІРА ЛУКША**

# Ці мытнік Левій быў евангелістам?

Слова „евангелле“ ў грэчаскай мове абазначае „добрую навіну“. У I і II стагоддзі паявілася многа евангелляў, аднак хрысціянскія цэрквы прынялі ў свой канон толькі чатыры, усе іншыя — адкінулі, палічыўшы іх апокрыфамі. Многія апокрыфы загінулі, а з тых, якія ацалелі, да вядомых належаць евангеллі: эбіянітаў, стараяўрэйскае, Фамы, Праўды, Якава і іншыя. Царкоўная традыцыя аўтарам першага ў кананічным парадку Евангелля ў Новым Запавеце лічыць апостала Мацвея, вучня Ісуса, якім быў мытнік Левій сын Алфея. Царкоўны пісьменнік Папій у II стагоддзі напісаў, што ап. Мацвей „сабраў прароцтва ў стараяўрэйскай мове і кожны перакладваў іх на свой спосаб, найлепш, як умеў“. Да сённяшняга дня ніхто не можа дакладна сказаць, што ў яго абазначае слова „прароцтва“: ці гэта пропаведзі Ісуса, ці нешта іншае. Пасля царкоўныя пісьменнікі Клімент Александрыйскі, Ірыней і Яўсевій аўтарам першага Евангелля палічылі ап. Мацвея. І цяпер усе хрысціянскія цэрквы цвёрда вераць старадаўній традыцыі, хаця даследаванні заходніх біблiёлагаў даказваюць малую праўдападобнасць таго, што аўтарам першага Евангелля быў ап. Мацвей. Напэўна аўтарам быў яўрэй, які добра ведаў тэрміналогію Старога Запавету, адначасна ў Палесціне і добра разбіраўся ў тадышнім судаводстве. Такіх яўрэяў тады было многа. Нават яўрэі з дыяспары, хаця і не ведалі арамейскай мовы, не толькі фінансава падтрымоўвалі Іерусалімскі храм, але мелі абавязак, як пілігрымы, ездзіць туды. У Іерусаліме паўсталі нават сінагогі, у якіх яўрэі з дыяспары маліліся на грэчаскай мове. Разумеў гэта каталіцкі ксёндз Эўгеніюш Дамброўскі, біблiёлаг, які ў сваёй кнізе „Ewangelie, ich powstanie i rodzaj literacki“ піша: „Oprócz kierunku nazwanego tradycyjnym, w dzisiejszej nauce twierdzenie to na liczne natrafia sprzeciwy. Powody przy tym są różne, a zawarte w Ewangelii proroctwo o zburzeniu miasta i świątyni wcale nie najmniejszym z nich“. Якія аргументы прыводзяць біблiёлагі супраць таго, што Левій не з'яўляецца аўтарам першага кананічнага евангелля?

1. Калі б пісаў яго ап. Мацвей, які цэлы год (а паводле Евангелля ад Іаана — тры гады) увесь час быў разам з Ісусам, то напісаў ён бы свае ўласныя ўспаміны, а не карыстаўся б іншымі крыніцамі. Біблiёлаг Д. Ф. Штраус у сваёй кнізе „Жыццё Ісуса“ (Das Leben Jesu) напісаў: „Мацвей — гэта матэрыял з другіх рук; аўтар нават біяграфічныя факты браў з іншых крыніц“. Аўтар узяў 600 сціхоў з Евангелля ад Марка, а 550 сціхоў — з дзвюх іншых крыніц і толькі рэшта з'яўляецца яго ўласным тварэннем. Аўтар нават да ўзятых у іншых фактаў не ставіўся крытычна: некаторыя аповесці ён прыводзіць два разы, узяўшы іх з дзвюх розных крыніц, як, напрыклад, цуд размнажэння хлеба (14: 17-21 і 16: 33-37) ці выгнанне злога духа з вар'ята і іншыя. Напрыклад сціхі 8: 5-10, у якім Ісус без агаворак аздараўляе слугу язычніка сотніка, а ў сціхах 15: 21-28 не хоча памагчы жанчыне хананеянцы і гаворыць: „Я пасланы толькі да загінуўшых авечак дома Ізраілева“ і далей: „кепска браць хлеб у дзяцей і кідаць яго сабакам“ (яўрэі называлі сабакамі ўсіх неяўрэяў). Урэшце пад націскам сваіх вучняў і моцнай просьбы жанчыны дапамагае ёй. Высылаючы апасталаў у свет Ісус гаворыць ім: „На дарогу да язычнікаў не хадзіце і да самарянскіх гарадоў не ўваходзьце. Ідзіце толькі да загінуўшых авечак дома Ізраілева“ (10: 5-6). У іншых жа месцах (8: 11 і 21: 43) гаворыцца, што ў сувязі з тым, што яўрэі не вераць яму, трэба язычнікаў агітаваць і пераварочваць на веру ў праўдзівага Бога. Гэтыя супярэчныя быццам бы выказванні Ісуса, якія паяўляліся на працягу дзесяткаў гадоў пасля распяцця Хрыста, аўтар сабраў і бескрытычна ўвёў у свой тэкст. Меркаванні, што язычнікаў трэба прыцягваць да хрысціян, паявіліся пад уплывам навукі ап. Паўла, намнога пазней, чым гэтаму навучаў Ісус.

2. У сувязі з тым, што ў першым Евангеллі ёсць многа сціхоў запазычаных з Евангелля ад Марка, не можа быць мовы аб тым, што першае Евангелле было напісана на арамейскай мове. Бо ўсе, нават Царква, гавораць, што другое Евангелле было напісана на грэчаскай мове. Не перакладаў бы аўтар першага Евангелля тэксты з другога Евангелля з грэчаскай на арамейскую мову.

3. Аўтар першага кананічнага Евангелля вельмі добра ведаў грэчаскую мову „koine“. Хаця мытнік Левій напэўна ведаў грэчаскую мову, але не ў такой ступені, як напісана ў Евангеллі. Аўтар Евангелля ад Мацвея быў літаратарам. Яго тэксты ёсць узяты ў рамкі літаратурнай канструкцыі згодны з задуманай ім канцэпцыяй. Аўтар ігнаруе храналагічныя даныя і ўсё жыццё Ісуса і яго дзейнасць звязвае з пяццю яго вялікімі пропаведзямі, якія пераплятае апаваданнямі аб яго учынках. Ён стараецца даказаць, ад пачатку да канца, што Ісус гэта Месія, які прыйшоў на зямлю згодна з прароцтвамі Старога Запавету і створаная ім Царква — гэта месіянскае каралеўства. Тое, што ў іншых евангелістаў усе выказванні Ісуса былі раскінутыя ў часе яго дзейнасці, аўтар першага Евангелля сабраў у пяці аповесцях, у пяці пропаведзях.

4. Евангелле ад Мацвея паўстала пасля 70 года, калі рымляне разбурылі Іерусалімскі храм у часе ўзброенага паўстання яўрэяў. Многія вучоныя лічаць, што яно паявілася дзесьці паміж 85-100 г. У Евангеллі чатыры разы гаворыцца аб збурэнні Іерусаліма і Іерусалімскага храма і напамінаецца аб праследаваннях хрысціян, якія былі ў 81-96 гадах. Хто быў аўтарам першага кананічнага Евангелля — невядома. Быў ім напэўна яўрэй з дыяспары, які даказваў лепш ад усіх іншых евангелістаў, што ўсе ўчынкі Хрыста былі рэзультатам прароцтваў Старога Запавету. Паводле яго Ісус быў пасіўным інструментам даўно азначаннага намеру і думкі Бога. Сам Ісус ад пачатку ведаў свой лёс і ад яго не мог уцячы. У пачатку аўтар прыводзіць радаслоўную Язэпа, які паходзіць ад Аўраама і цара Давіда (бо Месія мог быць толькі з роду Давіда і нарадзіцца меў у Віфлееме), а пасля пярэчыць гэтаму, сцвярджаючы, што Ісус не быў сынам Язэпа. Ісус паводле аўтара нарадзіўся ў Віфлееме, а толькі пасля смерці Ірада пападу ў Назарэт. Пасля смерці Ірада Палесціна была падзелена паміж трох яго сыноў. Старшы яго сын, Архелай, атрымаў Іудзею (там знаходзіцца Віфлеем), Самарыю і Ідумею. Другі сын, Ірад Антыпа, атрымаў Галілею (там Назарэт) і Перэю. Трэці сын, Філіп — паўночна-ўсходнюю частку (Траханіду з іншымі вобласцямі). Паводле Евангелля, Марыя, калі вярталася з Язэпам і Ісусам з Егіпта, баялася Архелая і пайшла ў Назарэт, хаця Ірад Антыпа не быў лепшы за Архелая, бо менавіта ён загадаў забіць Іаана Хрысціцеля. Ёсць разыходжанні паміж тэрмінамі другога прыходу на зямлю Сына Чалавечага. Яшчэ ў сціху 16: 28 Ісус гаворыць: „Сапраўды гавару вам: ёсць некаторыя з стаячых тут, якія не пазнаюць смерці, як ужо пабачаць Сына Чалавечага, які прыйдзе ў Царстве Сваім“. Яшчэ ў сціху 24: 24 напісана: „Сапраўды гавару вам: „Не пройдзе род гэты, як усё гэта будзе“ (гэта значыць — з'явіцца Сын Чалавечы), а ўжо ў сціху 24: 42 Ісус гаворыць: „Не спіце, бо не знаеце, у які дзень Пан ваш прыйдзе“. Біблiёлагі думаюць, што два першыя выказванні былі сказаны Ісусам, а трэцяе — паявілася пасля доўгага часу, калі прыход Сына Чалавечага не здзейсніўся, а аўтар Евангелля прыпісаў яго Ісусу.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# У чаканні Вялікага Посту

Задоўга да пачатку Вялікага Посту Царква напамінае нам аб ім і рыхтуе да гэтага важнага перыяду. Робіць гэтае як Добрая Маці, якая хоча каб Яе дзеці загадзя і належным чынам падрыхтаваліся да ўсіх важных у іх жыцці здарэнняў. А такімі з'яўляюцца святы і посты, асабліва Вялікі Пост. Да вялікіх святаў падрыхтоўваюць нас дні „предпразднства“, якія, у залежнасці ад свята, доўжацца ад 1 да 5 дзён, а да Вялікага Посту — падрыхтоўчыя нядзелі і тыдні. Пачынаюцца яны з Нядзелі аб Мытніку і фарысею, калі набажэнствы спраўляюцца паводле Постнай Трыёдзі (літургічнай кнігі, якая зьмяшчае ў сабе парадак набажэнстваў у падрыхтоўчым перыядзе і ў час Вялікага Посту). Гэты перыяд састаўляюць 4 нядзелі і 3 тыдні. А вось паасобныя даты гэтага перыяду сёлета:

20. 02 — Нядзеля аб Мытніку і фарысею (Лука, 18: 10-14). Першы падрыхтоўчы тыдзень — Сплошная (всеядная) седмица; у сераду і пятніцу пост не абавязвае.

27. 02 — Нядзеля аб Блудным Сыне (Лука, 15: 11-32). Другі тыдзень, у якім у сераду і пятніцу абавязвае пост; субота гэтага тыдня — 5 сакавіка — Радзіцельская Сусветная Субота, калі молімся за ўсіх раней памерлых, асабліва за трагічна памерлых праваслаўных хрысціян.

6. 03 — Нядзеля аб Страшным Судзе, г. зв. Мясапусная (Матф., 25: 31-46). Трэці тыдзень — Сырная седмица, сплошная; у сераду і пятніцу не абавязвае пост, але ў гэтым тыдні не ямо ўжо мяса, а толькі малочныя і рыбныя прадукты.

13. 03 — Прощенное воскресенье, успамінанне Выгнання Прабацькоў з Раю, г. зв. Сырапусная Нядзеля (Матф., 6: 14-21).

**С. Н.**

# Зноў абакралі царкву

Зладзеі не даюць спакою царкве Св. Марыі Магдаліны ў Беластоку. Гэты невялічкі храм у цэнтры горада чарговы раз наведалі злачынцы. Ноччу з 29 на 30 студзеня г.г. была ўчынена спроба ўкрасці медную бляху, якой пакрыты дах царквы. Калі на месца злачынства прыехала паліцыя, паведамленая выпадковым прахожым, нягоднікі паспелі ўжо зняць некалькі квадратных метраў бляхі. Свае ліхадзейства раскрадальнікі тлумачылі нястачай сродкаў існавання.

**С. Н.**

# Ікона Божай Маці „Взыскание погибших“



Назва гэтай іконы адносіцца да найбольш глыбокіх і хвалюючых назваў, якія на працягу стагоддзяў прысвойваліся Прасвятой Багародзіцы. Яна адлюстроўвае найбольш глыбокія і адначасна падзячныя людскія думкі аб Багародзіцы як аб апошнім прыстанішчы, апошняй надзеі нешчаслівых і заблуканых людзей. Невядомая дакладная гісторыя іконы. Вядома толькі, што на Русі здаўна пісалі іконы з такой назвай. Пры іх здзяйсняліся цудоўныя здарэнні. Адно з іх адбылося ў Калужскай губерні ў XVIII стагоддзі. Жыхар вёскі Бор Фядот Абухаў па сіле магчымасці дапамагаў сваёй беднай прыхадской царкве. Аднойчы зімой, вяртаючыся на санях дадому, трапіў неспадзявана ў снежную завіруху і заблудзіўся. Конь спыніўся над краем яра і далей немагчыма было ехаць. Снег і мароз станавіліся штораз больш дакучлівымі, пагражала смерць ад холаду. У такіх нешчаслівых абставінах Абухаў з усяго сэрца маліўся да Божай Маці і прасіў выратавання. Адначасна паабяцаў устанавіць у сваёй прыхадской царкве копію яе іконы „Взыскание погибших“, якая знаходзілася ў мястэчку Волхаве. Потым выпраг ён каня, прывязаў яго з боку саняў, а сам лёг у сані і накрыўся чым мог. Несумненна замёрз бы, калі б не пакроў на ім Той, у Якой так моцна прасіў дапамогі. Здзейсніўся цуд і Абухаў апынуўся пры браме аднаго селяніна ў суседняй вёсцы, які пачуў людскі голас ля свайго дома. Калі гаспадар выйшаў на вуліцу, пабачыў сані з прывязаным канём. У санях ляжаў напаўзамёрзлы чалавек. Унеслі яго ў хату, абагрэлі. Пасля выздараўлення выратваны Ф. Абухаў, згодна свайму абяцанню, устанавіў у сваёй прыхадской царкве ікону „Взыскание погибших“. Ікона, напісаная на памяць цудоўнага выратавання чалавека, сама праславілася цудамі. Кожны год у царкве збіраліся многія паломнікі. Праз нейкі час, дзякуючы іхнім ахвяраванням, быў пабудаваны новы каменны храм, у якім змясцілі цудатворную ікону.

Іншы выпадак адбыўся 12 красавіка 1927 года на хутары Белеве каля Роўна на Валыні. У хаце беднай удавы здзяйснілася цудоўнае абнаўленне старой іконы Багародзіцы „Взыскание погибших“ (глядзі: ікона справа). На гэтым месцы была збудавана царква, у якой змясцілі гэтую ікону. Яна таксама праславілася цудоўнымі выздараўленнямі, дзякуючы Божай ласцы, выцякаючай з заступніцтва Багамаці. Храм гэты стаў месцам многіх паломніцтваў, не толькі з навакольных раёнаў, але і з Холмшчыны, Палесся, а нават Гродзеншчыны і Віленшчыны.



Памяць Іконы Божай Маці „Взыскание погибших“ ушаноўваем 18 лютага (5.02 па ст. стылю).

*Паводле „Сказания о земной жизни Пресвятой Богородицы“, архим. Пантелеймон, Jordanville, 1974,*

*апрацаваў* **С.Н.**

З народнай абраднасці

# БАТЛЕЙКА

Зімовыя снежныя вечары спрыяюць успамінам. Любім слухаць расказы аб тым, як даўней жылося-былося, што цікавага адбывалася тады, калі нашыя дзяды хадзілі яшчэ ў каротkіх штоніках.

А бывала цікава. Вось, напрыклад, тады, калі ў вёску прыходзіў батлейшчык з батлейкай і пачыналася прадстаўленне.

Батлейка — гэта беларускі лялечны тэатр. Тым, хто ўпершыню чуе гэтае слова, прапаную аднесці яго да польскай шопкі ці ўкраінскага вэртэпа.

Стапрацэнтнага паралелізму тут, аднак, не знойдзем. Батлейка — набытак беларускай нацыі і мае свае адметнасці. Слова „батлейка" польскага паходжання і выводзіцца ад Бэтлеем — польскай назвы Віфлеема.

Батлейка з'явілася на Беларусі ў XVII стагоддзі, як рэлігійна-містэрыяльны тэатр. Пачаткова рэпертуар батлейкі, як і польскай шопкі, складаўся з біблейскіх сюжэтаў. Самай найдаўнейшай формай была т.зв. „жывая батлейка": інсцэнізацыя рыхтавалася спектаклямі жывых акцёраў. Такі тып тэатра вядомы быў на тэрыторыі Польшчы і Украіны і меў з батлейкай супольныя крыніцы. Прапагандаваннем перанятага з Заходняй Еўропы тэатра займаліся шкаляры-семінарысты, студэнты духоўных школ, дзякуючы якім батлейка атрымала шырокае распаўсюджанне.

У канцы XVII і ў пачатку XVIII ст. батлейка трапіла ў рукі местачковых рамеснікаў, потым нават і сялян. З гэтага часу можна заўважыць папаўненне рэпертуару народна-камедыйнымі, свецкімі сцэнамі, якія з'яўляюцца галоўнай адметнасцю беларускага лялечнага тэатра. Тэатр-батлейка ў выглядзе хаткі ці царквы мае старажытныя вытокі. Ідэнтычны па сваёй будове тэатр апісвае Герадот. У час рэлігійнага свята Новага года і нараджэння бога Сонца — Геліяса тэатр-святыню пераносілі з аднаго храма ў другі.

На Беларусі было вядома некалькі тыпаў батлеек: адна-, двух- і трохпавярховая. Найбольш пашырана версія — двухчастковая. Верхні паверх уяўляў „неба", ніжні — „зямлю". У „небе" знаходзіліся толькі святыя — Марыя з Юзэфам і маленькі Хрыстос у калысцы, Анёл, прыходзілі туды тры вешчуны, каб пакланіцца Нованароджанаму. Дарогу да Хрыста паказвала „віфлеемская зорка", якая была прымацаваная да даху пад „небам". У ніжнім паверсе быў палац Ірада, у цэнтры стаяў яго трон.

Розныя тыпы батлейкавага тэатра мелі свае сістэмы лялек. Акрамя плоскіх, выразаных з бляхі ценявых фігурак, марыянетак, пальчатачных лялек (пацынак), выкарыстоўваліся ў галоўным лялькі шпянёвага тыпу — на палках.

Асноўныя тэкставыя варыянты батлейкавых прадстаўленняў былі запісаны аж у другой палове XIX ст. Драматургія батлейкі дзеліцца на дзве, а дакладней кажучы, на тры часткі: сцэны і песні рэлігійнага зместу, містэрыяльную драму „Цар Ірад" і народныя сцэны.

На самым ранні этапе існавання батлейкавага тэатра склаліся сцэны з рэлігійным зместам — нараджэнне Хрыста, пакланенні вешчуноў, духоўныя песні і канты. Тут варта заўважыць, што часта выкарыстоўваўся вядомы кант „Нова радасць стала" ці старажытнейшы „Шэдшэ трые цары". Да найдаўнейшых сюжэтаў батлейкі належыць сцэна з Адамам і Евай. Гэтыя персанажы выводзіліся на сцэну, каб прыпомніць гледачу аб першародным грэху нашых продкаў. Драма „Цар Ірад" мае таксама выразную біблейскую аснову. У ёй паказваецца „грозны цар Ірад" (кароль Гэрад у польскім варыянце), які забіў чатырнаццаць тысяч дзетак, даведаўшыся што нарадзіўся новы ўладар — Хрыстос. Не дала забіць свайго дзіцяці толькі Рахіль, якую Ірад загадаў сваім ваярам прывесці і на ее вачах „расцярзаў" дзіця. Рахіль праклінае Ірада і зараз з'ўляецца Смерць, Чорт або Анёл, якія маюць права пакараць злога Уладара. У містэрыях XIV ст. Ірада з'ядалі чэрві, пазней смерць пасылаў на яго Анёл ці сам цар канчаў жыццё самагубствам.

Галоўным матывам, які адрознівае батлейку ад заходнееўрапейскіх тэатраў — гэта матыў пакарання Ірада смерцю на вачах гледачоў. Асабліва цікавы раздзел драматургіі батлейкі складаюць камедыйныя сцэны. Заснаваныя на бытавых жартах, анекдотах, камічных здарэннях і апавяданнях, гэтыя творы вызначаюцца асаблівай свежасцю народнага гумару.

У камедыйным рэпертуары батлейкі многа сцэн сатырычнага характару, у якіх высмейваюцца такія тыпы, як доктар — шарлатан, карчмар — жыд, фанабэрысты франт — шляхціц Шчогаль, цыган, казак. Героі займаліся сваімі справамі: цыган мяняў коней, цыганкі варажылі, жыд гандляваў. Пашыраны былі замалёўкі „Антон з казой і Антоніха" і сцэна з мядзведзем.

Нязменным удзельнікам батлейкавага прадстаўлення быў невялікі інструментальны ансамбль. Звычайна складаўся ён з двух ці трох людзей, іншы раз іграў адзін інструмент. Найбольш папулярныя інструменты — скрыпка, цымбалы і бубен.

З батлейкай хадзілі часцей за ўсё вечарам. Пасля запрашэння ў хату пачыналася падрыхтоўка да спектакля. Запальваліся свечкі на батлейкавых ліхтарках, музыканты-батлейшчыкі гралі ўступны марш. Пачынаўся спектакль...

Прадстаўленне канчалася песняй хору, выстралам з самаробнай гарматы або выхадам героя, які збіраў грошы. У гэтай ролі выходзіў Пілігрым, Манах з кошыкам або Стары Дзед з торбай.

Галоўнай фігурай батлейкавага прадстаўлення быў сам батлейшчык. Ён не толькі іграў усе ролі, у тым ліку і жаночыя, але часта даваў ад сябе характарыстыку героям, „рэкамендаваў" іх гледачу.

Мастацтва батлейкі — сінтэтычнае мастацтва. Батлейшчык сумяшчаў мастацтва акцёра, рэжысёра, мастака, скульптара і драматурга-сцэнарыста. Драматургія батлейкі і ў першую чаргу яе камедыя, з'ўлялася канцэнтраваным выяўленнем мастацкага вопыту народа. У ёй знайшла ўвасабленне народная сутнасць эстэтычных прынцыпаў, беларускі светапогляд.

Шкада, што сёння няма ўжо сапраўдных батлейшчыкаў і не можам быць гледачамі батлейкавага прадстаўлення, якое адбывалася з 25 снежня да 2 лютага па строму стылю.

АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ЧАТЫРЫ ДНІ ПЕРАД ВЫЗВАЛЕННЕМ

## 2 лютага 1945 г.

У маім пакоі на паддашку стаялі вялікі стол, адно крэсла і шырокі ложак. Было халаднавата і не хацелася мне выходзіць з-пад цёплай пярыны і з абдымкаў Лідкі. У пакоі не было акна, так што цяжка было здагадацца, ці рана яшчэ, ці ўжо позна. Урэшце сышлі мы, пазней як заўсёды, на работу. Лідка пайшла даіць кароў, а я ўлез на вышкі ў хляве скінуць ім сена ў жалабы. Красулі ў той час падымалі ўверх морды і выцягвалі сцяблінкі з драбінак. Стаялі яны на падлозе і кожны дзень трэба было ўбіраць гной і падсцілаць свежую салому. Потым наліў я ў жалабы вады з ручной помпы, якая знаходзілася ў хляве.

На панадворку, так як і ўчора, завіхаліся салдаты — нямецкія і рускія з РОА. Аднак, былі гэта іншыя людзі, чым учора. Штаб далей працягваў працаваць у левым крыле дома. Маладзенькі дзяншчык прахаджваўся па панадворку, размаўляў з салдатамі, якія ставіліся да яго з асаблівай пашанай. Вельмі ветліва адносіўся да яго таксама і палкоўнік са штаба. Адчувалася, што гэта не службовыя, а нейкія сваяцкія сувязі. Мне не выпадала пытаць у салдацка, ці палкоўнік — яго радня.

Два кані палкоўніка стаялі ў хляве, але даглядаць іх было абавязкам салдат. Яны чысцілі іх, давалі авёс і ваду. Коні былі гладкія і чыстыя. Дзяншчык час ад часу заходзіў у хлеў, правяраў парадак, даваў указанні салдатам.

Каля дзесятай раніцы нечакана вярнуўся баўэр — сам адзін з коньмі, з часткай харчоў і з возам. Жонка і свіння ў клетцы асталіся пры цесцю. Я распрог коней, завёў іх у хлеў. Баўэру было ўжо за шэсцьдзесят, пакульгваў і хадзіў з палкай. Ягонай сястры споўнілася 53 гады, а яе мужу — 65. Абое яны вельмі здзівіліся, калі пабачылі вярнуўшагася Йозефа. „Куды мне ўцякаць зімой, — сказаў ён. — Я памятаю рускіх з 1914 года, калі яны на коратка ўвайшлі ў Прусію. Яны — вельмі добрыя людзі. Нікому яны крыўды не зрабілі". Ён, відаць, не даводзіў яшчэ да сваёй свядомасці таго, што і немцы, і рускія за гэты час моцна змяніліся. І адных, і другіх адмянілі ідэалогія і ўмовы жыцця.

Панадворак з усіх бакоў быў абведзены будынкамі. З паўднёвага боку стаяў мураваны хлеў, у якім засталіся дзве невялікія свінкі (гусей і курэй вывезла з сабою баўэрава жонка). Дзіўна, што падсвінкі не папалі яшчэ ў салдацкі кацёл. Ад поўначы высіўся таксама мураваны хлеў для коней і кароў. З заходняга боку была пуня, а з усходу — жылы дом. Такім чынам будынкі ў нейкі спосаб ахоўвалі нас ад куляў, якія маглі ўпасці з поўдня. Пад вечар ля пуні разарваўся снарад. Выбуховая хваля скалыхнула салдатам РОА, але не параніла яго. Я апынуўся метраў з дваццаць ад месца выбуху, але апрача гулу нічога не пачуў.

У той момант надышоў дзяншчык. „Хорошо, что никто не ранен", — сказаў ён, а пасля, пагледзеўшы неяк дзіўна на мяне, спытаў: „Почему вы не убегаете от большевиков?" „А куда я убегу, если даже мой хозяин и то вернулся?" — сказаў я. „Ну, посмотришь, они сдерут с тебя шкуру. Они не любят тех, которые жили в Германии. Они всё-таки видели другую жизнь", — працягваў малады дзяншчык, звяртаючыся да мяне на „ты". „Так что, немцы отдатут Померен?" — запытаў я. Ён пагледзеў злосна на мяне і сказаў: „Если оставим, то скоро вернёмся, но тебя уже здесь не будет. Отвезут куда-нибудь в лагерь, если не расстреляют".

Немцы і салдаты з РОА пайшлі спаць на сена ў пуню і на вышкі над хлявамі. Ноччу ў наш пакойчык прывялі чатырох рускіх у чорнай форме. Былі гэта, відаць, працаўнікі арганізацыі Тодта, якая вяла будаўнічыя працы пры лініі фронту. Адзін з іх падышоў да нашага ложка, пасвяціў ліхтаром і сказаў: „Здесь спят муж с женой". Яны ўлегліся спаць на падлозе, побач нашага ложка. Але, недзе пад раніцу яны адышлі і мы іх больш не бачылі.

*(працяг будзе)*

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

## Частка II

Хаця я разам з дарастаннем і заглядаў усё часцей у зборнік „Пад сінім небам", то на працягу гадоў 1942-1957 нічога не ведаў пра яго аўтарку — Наталлю Арсенневу. Пытаў я пра яе Валодзю Хлябіча, аднак ён ведаў толькі тое, што паэтка жыла да вайны ў Польшчы і далейшы яе лёс быў яму невядомы.

Пэўную новую дозу інфармацыяў аб лёсе Наталлі Арсенневай атрымаў я ў 1957 годзе, калі, будучы асістэнтам на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта атрымаў з Заходняй Германіі пасылку з беларускімі эміграцыйнымі кнігамі і часопісамі. Быў гэта перыяд так званай палітычнай адлігі, звязанай з вяртаннем да ўлады Уладзіслава Гамулкі, дзякуючы якому стаўся магчымым кантакт з Захадам, аб чым раней увогуле мы не думалі. З атрыманых кніг я тоё-сёе даведаўся пра беларускую эміграцыю. Даведаўся таксама, што Наталля Арсеннева жыве, актыўна ўдзельнічае ў літаратурным жыцці і знаходзіцца ў Злучаных Штатах.

Пазнейшыя гады характарызаваліся ахаладжэннем адносін Польшчы з Захадам і я болей не атрымліваў кніг, а тым больш беларускай прэсы з заходніх краін. Сітуацыя досыць радыкальна змянілася на пачатку сямідзесятых гадоў, калі ў Польшчу пачалі прыязджаць беларускія эмігранты. Свайго роду Калумбам у пракладванні новых шляхоў быў ужо ахарактарызаваны мною Сяргей Карніловіч. Аказалася, што Сяргей ведаў Наталлю Арсенневу асабіста, а таксама быў азнаёмлены з яе эміграцыйнай творчасцю. Праўда, Карніловіч не быў ні гісторыкам літаратуры, ні літаратурным крытыкам. Таму яго ацэнкі творчасці Наталлі Арсенневай мелі даволі павярхоўны характар. Нягледзячы на гэта, ён значна мяне ўзбагаціў ведамі. Гэта ад Сяргея я даведаўся, што ў часе акупацыі ў Менску загінуў ад узрыву партызанцкай бомбы сын Наталлі Арсенневай Ярослаў. Калі я паказаў С. Карніловічу выдадзены ў 1927 годзе зборнік Наталлі Арсенневай „Пад сінім небам", ён запрагнуў купіць гэту кніжку, прапануючы на тыя часы астранамічную для мяне суму ста долараў. Я аднак устаяў перад грашовай спакусай і кнігу не прадаў. Ён, зрэшты, перастаў мяне намаўляць, калі даведаўся, што зборнік гэты — падарунак чалавека, які ўжо не жыве.

Сяргей Карніловіч, прыязджаючы ў Польшчу час ад часу прывозіў мне нумары тых розных эміграцыйных часопісаў, у якіх друкаваліся творы Наталлі Арсенневай. Трэба сказаць, што ўсе яны мне моцна падабаліся і бударажылі маё паэтычнае ўяўленне.

Мабыць, кожнаму паэту досыць цяжка акрэсліць прычыны сваёй творчасці. Я асабіста таксама маю цяжкасці з высненнем гэтай праблемы. Калі, аднак, сёння задумоўваюся над гэтай справай лепей і шукаю першавытокаў сваёй творчасці, дык побач такіх паэтаў, як Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка, Максім Багдановіч, малады Максім Танк, прагнуў бы назваць таксама Наталлю Арсенневу, як адну з крыніц нараджэння маіх паэтычных пошукаў. І хто яго ведае, ці зборнік „Пад сінім небам", які іскрыўся золатам асенніх і ўвогуле прыродаапісальных матываў не паўплываў на тое, што першы свой верш, напісаны ў 1959 годзе назваў я „Восень". Так мне здаецца, але такога тыпу гіпотэзы трэба ставіць вельмі асцярожна, бо можна памыліцца. Не можа быць, аднак, памылкі ў прызнанні, што зборнік Наталлі Арсенневай быў на працягу многіх гадоў маёй настольнай кніжкай і што ён не мог не ўплываць на фармаванне маіх паэтычных густаў ды інспірацыяў.

АЛЕСЬ БАРСКІ

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ТЭХНАТРОННЫЯ ЗДАНІ

### Вагонная Паненка

Часам здараецца, што традыцыйныя для архаічнага ладу жыцця здані і пачвары ўздзеяннем размаітых тэхнатронных сродкаў губляюць сваю ранейшую сутнасць і засвойваюць новыя арэалы існавання — пры гэтым яны страчваюць ранейшую існасць і набываюць новыя якасці.

У 1991 годзе пры будаўніцтве платформы адной чыгуначнае станцыі непадалёк ад Менска рабочыя засыпалі гравіем невялічкі ставок, у якім з даўніх часоў вялася досыць рэдкая для нашага рэгіёна пачвара — русалка. Старыя людзі, што жылі па-суседску, раілі не рабіць гэтага жорсткага злачынства, бо ведалі, што русалкі вызначаюцца не толькі звышчалавечай юрлівасцю, але і злапамятнасцю і помслівасцю. На жаль, гэтыя парады не былі ўзятыя пад увагу: ставок засыпалі экскаватарам, але ўваду на ўсялякі выпадак былі апушчаны дроты з ліній чыгуначных электраперадач — будаўнікі спадзяваліся, што русалка будзе забітая электратокам.

Гэтага, аднак, не здарылася. Атрымаўшы звышмоцны электрычны зарад, хцівая пачвара выйшла ў цалкам новае вымярэнне — яна на кароткі тэрмін ператварылася ў электраімпульс і па чыгуначным дроце ўмомант перакінулася на бліжэйшую электрычку, дзе і зматэрыялізавалася ў істоту, вядомую пакуль што ў адзіночным ліку — ва ўсіх энцыклапедыях ды даведніках яна пазначаецца як Паненка Вагонная.

Перайшоўшы ў новую якасць, істота, тым не менш, не страціла сваіх найбольш адметных рысаў — юрлівасці і помслівасці, і неўзабаве ўсе пасажыры, што карысталіся паслугамі ордэна Леніна Беларускай чыгункі, пачалі сутыкацца з жахлівымі ліхтугамі. Позна ўвечары ў вагоне з'яўлялася нейкая прывабная сексапільная паненка — яе паходка і манеры адразу ж вабілі ўсіх мужчын ад чатырнаццаці да сямідзесяці, што сядзеўшы на лавах, бавілі час у чытанні эратычных часопісаў. Паненка, апранутая ў доўгі, па лыткі плашч, падыходзіла за аднаго з эратаманаў і за невялікую плату прапанавала наладзіць экспрэс-стрыптыз. Размілаваны і страціўшы пільнасць мужчына, натуральна, пагаджаўся: дзявуля, расшпіліўшы гузікі, расхінала плашч — пад ім, як сцвярджалі нямногія, цудам ацалелыя відавочцы, не было зусім ніякай вопраткі. Пакуль аматар ладных жаночых формаў пажыраў вачыма яе цела, Вагонная Паненка датыкалася да яго сваімі цыцкамі — а яны ва ўсіх русалак, як вядома, зроблены з жалеза. Атрымаўшы моцны электрычны разрад, мужчына паміраў у страшэнных канвульсіях — целы некаторых аматараў эротыкі абвугліваліся да непазнавальнасці...

Чыгуначная міліцыя рабіла немала спробаў, каб высветліць таямнічыя забойствы; спачатку следчыя меркавалі, што першапрычына пакутніцкіх смерцяў ахвяр — залішняя ўразлівасць ад чытання эратычных выданняў, ад якой і наступаў перагрэў галаўнога мозгу з наступным самаўзгараннем цэлага арганізма. Але шматлікія вопыты давялі, што гэта не так. Праваахоўным установам давялося даць веры факту, што Вагонная Паненка сапраўды існуе. Пачвараznаўцы, што былі прыцягнутыя да расследавання загадкавых смерцяў эратаманаў высветлілі, што водалюбівая пачвара — а Вагонная Паненка, як былая русалка, напэўна не страціла гэтай якасці, — безумоўна абярэ месца існавання, так ці інакш звязанае з вадою, а адзіным такім месцам у электрычках ёсць прыбіральня ў тамбуры. Даследаванне прыбіральняў электрычак, тым не менш, не дало аніякіх вынікаў, бо амаль усе яны былі закалочаны іржавымі цвікамі з сярэдзіны; і міліцыянты, і навукоўцы катэгарычна адмовіліся пранікаць туды, слушна баючыся атрымаць смяротны электрычны разрад з жалезных цыцак пачвары...

А таму, вандруючы электрычкай па Беларусі, не здзіўляйцеся, калі прыбіральня ў вашым вагоне будзе зачынена, бо там напэўна жыве Вагонная Паненка. Бо безумоўна, лепш патрываць да канцавой станцыі, чым парушыць спакой гэтай жорсткай і падманлівай істоты...

*(праяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС
і МАРЦІН ЮР**

# КРЫЖАВАНКА



Гарызантальна: 3. прарок, аўтар адной з кніг Старога Запавету, 8. нездаровы чалавек, 9. пашкоджанне арганізма, 10. самец свінні, 11. яркае святло, 13. рака ў Перу, 15. месяц, 16. сусветна вядомы мастак, родам з Віцебска (1887-1985), 20. лячэбны стацыянар, 22. запісвае змены атмасфернага ціску, 23. гранічная рака між Турцыяй і Арменіяй, 27. змаганне, 29. японскі пісьменнік (1925-70), 30. возера ў Фінляндыі, 31. беларускі белчырвона-белы, 32. пажыўная белая вадкасць, 33. металічны гаршчок, 34. месяц.

**Вертыкальна:** 1. месца, куды вывозяць непрыгодныя рэчы, 2. мэбля для сядзення, 4. правінцыя ў Канадзе, 5. след пасля свежай раны, 6. прыказ, 7. лiпкі сок хвойных дрэваў, 12. 1000 грамаў, 14. разнавіднасць капусты, 16. зімовае адзенне, 17. няшчасце, 18. беларускі тыднёвік, 19. планета, 21. работнік рэстарана, 24. расстаноўка людзей па росту, 25. слаўная беларуская гімнастка, 26. мнагалюдная дзяржава, 27. горад на Магілёўшчыне, 28. салоная вада для засолкі.

**(Ш)**

**Адказ на крыжаванку з 1 н-ра:**

**Гарызантальна:** карп, неруш, Італія, Саул, Непал, Ажэшка, Візантыя, запас, агентура, балгарка, Шчара, Карэлічы, парода, аковы, коўш, Малаві, агонь, ясак.

**Вертыкальна:** Венера, булава, абаранак, Пілат, Карэя, ціскі, лістапад, жытнішча, зубы, піла, рука, нага, габлёўка, Чыкага, рэвень, Панай, Колас, ракія.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

* * *

**Адказ на адгаданку з 1 н-ра:**

Паасобныя госці прыехалі з наступных мясцовасцей: Арканаў — Нараўка, Баўдзула — Заблудаў, Вамоліха — Міхалова,Ваўліська — Васількаў, Вудароб — Дуброва, Вясолуха — Сухаволя, Жабелева — Белавежа, Журса — Сураж, Каласок — Саколка, Кардога — Гарадок, Кікрын — Крынкі, Ляшлічэк — Кляшчэлі, Невоцюх — Юхновец, Праслусь — Супрасль, Рунцэ — Нурэц, Рынацкі — Карыцін, Цытонік — Тыкоцін, Чылімецый — Мілейчыцы, Шарчоха — Харошча і Шывік — Вышкі.

Кніжкі з аўтографам атрымоўваюць: **Ірына Лукша з Мора, Лукаш Пацэвіч і Аляксей Харужы** з Беластока ды **Анэта Нічыпарук, Марыя Хадакоўская** і **Славамір Кулік** з Гайнаўкі.




Дарагі Астроне! Мне і маёй дачцэ амаль аднačасова прысніліся два цікавыя сны.

Мне снілася вялікая вада. Вада мне сніцца даволі часта, бывае яна розная: чыстая, мутная, спакойная, з вялікімі хвалямі; бывае гэта рака, мора, нейкая сажалка ці проста лужына. А на гэты раз прысніўся мне... акіян. Нехта мог бы падумаць, што быў ён грозны, а хвалі былі вышынёй блёкаў. Нічога падобнага! Акіян быў спакойны-спакойны, быццам на карце, я бачыла яго берагі, а які ж ён быў блакітны! Такі блакіт толькі ў сне і ўбачыш.

Маёй дачцэ, у сваю чаргу, прыснілася мяса. Я вельмі баюся, што яе чакае штосьці благое. Мяса было зваранае, цэлая прыгожая галёнка ляжала на талерцы. Мая дачка глядзела на гэту галёнку і мела ахвоту яе з'есці.

Што могуць прадвяшчаць нашы сны?

**Альжбета**

Альжбета! Калі сніцца вада чыстая і спакойная — так і спадзявайся павароту спраў у добры бок. Калі вада бывае брудная ці хоць бы мутная — знай, што будуць плёткі, вялікія хвалі прадвяшчаюць хваробу.

Табе прыснілася вада чыстая і блакітная — і гэта ўжо абазначала б табе спакой і дабрабыт. Але ж гэта была не простая вада, а цэлы акіян. Дык знай, чакае цябе слава і багацце!

Што датычыць сну тваёй дачкі, дык і ён добры, бо варанае мяса есці ці бачыць — поспех і дабрабыт. Іншая справа, калі б было яно сырое: прадвяшчала б няўхільна хваробу і смутак.

**АСТРОН**

## А ЯК КАЛІСЬ БЫЛО?

У аўторак 25 студзеня ў хатах нашай вёскі пагасла святло. Таксама і на вуліцах было цёмна. Усе адчувалі сябе неяк дзіўна. Прыйшлося запаліць свечку.

Свечка дае цьмянае святло. І мне ўспомнілася, як то было даўней. Вядома, электрычнасці па вёсках не было, ды і не ў кожнага была „газоўка". Святло даваў камінок. Пры печы было зроблена спецыяльнае заглыбленне і там палілі лучыну. Калі была месячная ноч, то ўвогуле нічога не запальвалі — пралі пры месячным святле. І як ні дзіўна, усё добра бачылі і рабілі дакладна.

Святла сёння не было тры з паловай гадзіны, а, здавалася, цэлы век.

А я ўсё думала пра тэхніку. Тэлевізар, радыё і іншыя прадметы, звязаныя з электрычнасцю, маюць сэнс толькі тады, вядома, калі яна ёсць, а калі электрычная сіла прападзе, яны толькі злом. Няраз паўтараюць у сродках масавай інфармацыі, што ўсе запасы паліва зmяншаюцца. Цікава, што вучоныя і практыкі прыдумаюць, калі на зямлі не будзе ні кроплі нафты, ні аднаго каменя вугля і іншых выкапняў ці атамнага паліва?.. Але, ці толькі людзі дажывуць таго часу, ці не даканаюць зямлю і сябе іншым спосабам!

**АЎРОРА**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РЫБА ПА-МАНАСКУ**

Прадукты:

*1 прэснаводная рыба ці 75 дэкаў філею,*
*мука для мачання рыбы,*
*1 сярэдняя цыбуліна,*
*1 варанае яйка,*
*некалькі сушаных грыбоў (у сезоне можна ўзяць свежыя),*
*1 шклянка густой смятаны,*
*5 дэкаў сцертага жоўтага сыру,*
*некалькі смажаных бульбін,*
*соль і перац.*

Ачышчаную рыбу памачаць у муку, палажыць яе ў ванначку, навокал — смажаную бульбу, падсмажаную на тлушчы цыбулю, пасечанае яйка, адвараныя, пасечаныя і падсмажаныя сушаныя грыбы. Заліць усё адварам з сушаных грыбоў. Заправіць па смаку, заліць смятанай і пасыпаць сырам. Запякаць у духоўцы 30-50 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Ян Мардань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Іранічныя радкі*

*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

## КАЖУЦЬ

*(працяг)*

Кажуць, не было ніколі
Ні дзяржавы ў нас, ні волі,
Вечна мы былі ў лапцях
З каўтунамі ў валасах.
Так далей бы і жылі,
Каб Саветы не прыйшлі.
Кажуць, што без камуністаў
Будзе больш авантурыстаў,
Чым пры іх было на свеце
У любым у кабінеце.
Кажуць, што ў рублёвай зоне,
Будзем мы, як зэкі ў зоне,
Будзе нас карміць, паіць
Той хто у Маскве сядзіць
І бясплатна нафта й газ
Пацякуць ракой да нас.
Кажуць, што саюз вайсковы
Вельмі ўжо такі талковы
І ўсе нашыя салдаты
Тут ля мамы і ля таты
Будуць кветкі сабіраць.
І нідзе не ваяваць.
Кажуць, мы не разумеем,
Што ў саюзе мы займеем,
Талерантныя, слабыя,
Без саюзаў ледзь жывыя.
Шмат чаго шчэ кажуць людзі!
Кажуць, шчэ й не тое будзе,
Што было і ёсць цяпер.
Толькі мне, чытач, павер,
Што ў жыццёвай мітусні
Шуму шмат і шмат хлусні,
І што праўда, што мана,
(Ну а праўда век адна)
Ты павінен бачыць сам,
Нават выпіўшы сто грам.

*(працяг будзе)*




# СЕНТЭНЦЫІ

Аб сабе ведаем найбольш, а гаворым найменш; аб іншых ведаем найменш, а гаворым найбольш.

* * *

Калі б кожны судзіў кожнага, усе былі б асуджаны на ганьбаванне. Калі б мы судзілі сябе — не хапіла б месца на лаве святых.

* * *

Якая мятла, такое і падмятанне.

**БАРЫС РУСКО**







*Малюнкі П. Козіча ("Вожык")*

## ДЗЕ ЧОРТ НЕ МОЖА, ТУДЫ БАБУ ПАШЛЕ!

Адзін мужык дык добра з жонкай ладзіў,
А гэта чорту ў горле косць.
І што ён не рабіў — не звадзіў,
І ненавісць бярэ яго, і злосць!
Чорт з хаты йдзе, хвастом трэ вочы,
Жаль яму дужы, а нават і устыд,
Не раз не еўшы і не спаўшы ночы,
Бо поспеху няма, і сам сабе абрыд.
Аж тут глядзіць: шкурдык-шкурдык
бабуля —
Якраз у тую вёску йдзець!
Прыстануў чорт дык бабе у паклоне:
Яна ж іх пэўна развядзець!
Чорт перад бабай такім харошым
стаўся,
Аж вышчэрыўся бабін клык.
Бяду сваю ён бабе расказаўшы,
Ёй абяцаў даць пару чаравік,
Як толькі муж кабету аддубасе.
Ну і прысягу чорт па-свойму даў.
А баба ўміг за дзела узялася.
Чорт, пеўно, добрэ бабу знаў,
Яшчэ як яблык крала Ева,
У раю Божым дзесьці там
З таго праклятага праз Бога дрэва,
Што праз яго прапаў Адам...
Тут баба шусь да жонкі на сакрэты,
Давай такое бабе гаварыць,
Што нідзе няма такой кабеты,
Аб лепшай то нідзе й не чуць!
А ёсць такі адзін сакрэт,
Каб жонка ўмела варажыць:
Такі сакрэт ёсць для кабет,
Каб у сям'і найлепей жыць:
Бо у мужчын на гарляку
Грубейшы валасок адзін,
Згаліць яго, дык да вяку
Муж паслухмяны будзе, так як сын.
Нагаварыла баба жонцы, што умела
І потым з хаты выйшла вон.
А жонка й полудня не ела,
Што муж не вечна добры ён.
Мужык арэ блізка ля межы,
А баба йдзець: шкурдык-шкурдык,
Стала ля поля: „Пачажы, Божа",
Як трэба, адказаў мужык.
— Ну, што чуваць, бабуся, у людзях?
— Ой, чула сёння я і шмат,
Ці вам казаць, ці не казаць,
Цяпер на брата ідзець брат!
А жонкі вернай дзе шукаць!
Бо ж у тваёй каханак ёсць!
Змаўляліся: як будзеш спаць,
Брытваю зробіць табе штосьі!
Сказаўшы, бабка у лес шусь,
Села цішком за першы куст,
Сядзіць, не пусціць пары з вуст,
Чакаець, што то будзе тут.
А жонка тут ляціць ад вёскі,
Схаваўшы брытву у кішэнь.
Паставіла на вобмежку дар Боскі
І кліча мужа, як што дзень.
Дзень штосьці хмарны... Есць не
надта хоча?
А потым зараз лёг заснуць.
Заснуў, а жонка ў кішэні шамоча,
Дастала брытву і чуць-чуць...
— Што, рэзаць будзеш зараз?! —
Як бык шалёны
Сарваўся муж з мяжы,
Давай кабету біць мужык!
Здзівіўся чорт, што баба так зрабіла,
Узяў яго прад бабай ляк.
І боты ёй наткнуў на вілы,
Здалёк падаў — баяўся так!
Каб баба і яго жыцця не атруціла,
Не нарабіла ў пекле штук,
Не набрахала, што дзе чула,
Што, можа, чорт яе байструк!
З тых пор чорт, сам дзе не парадзе,
Слухае пільна бабскіх рад,
У бабскай круціцца грамадзе
І ў пекле тым трымае лад.

**АЛЯКСАНДР БАРТАШЭВІЧ**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Што такое, удзень брэша, а ноччу плавае?
— Штучныя зубы цешчы.

* * *

Цырульнік да кліента:
— Выпадаюць вам валасы. Ці былі вы ў лекара?
— Не, яны самыя пачалі выпадаць.

* * *

Гутараць дзве суседкі:
— Ці ведаеце, што мой муж у бальніцы? Вяртаўся ноччу п'яны і разбіўся аб дзверы гаража.
— А самаход моцна разбіты?
— Не. На шчасце муж вяртаўся пяшком.

* * *

Расейскім стэпам едзе поезд. Затрымоўваецца. Стаіць гадзіну. Пасажыры нецярпліва выглядаюць цераз вокны. Убачылі двух чыгуначнікаў:
— Товарищи, что случилось?
— Будем машину менять.
Пасля трох гадзін:
— Ну и что, поменяли машину?
— Да, поменяли. На водку.

* * *

Дырэктар да сакратаркі:
— Колькі людзей прыйдзе на сённяшні банкет?
— Калі вы прыйдзеце, то будзе каля 15 асоб, а калі вас не будзе, то будзе нас каля 50.

* * *

— Пан кіраўнік, хацеў бы я з вамі пагаварыць на тры вокі.
— Як гэта на тры вокі? Хіба на чатыры?
— Не, толькі на тры. На гэта, што я скажу, трэба будзе адно вока заплюшчыць.

* * *

— Сусед! Ці вашы коні кураць папяросы?
— Не.
— У такім выпадку ваша стайня гарыць.

* * *

Старая бабуля просіць маладога хлопца:
— Памажы мне, мой даражэнькі, перайсці на другі бок вуліцы; пры маім узросце небяспечна хадзіць адной.
— Вы жывяце па той бок вуліцы?
— Не, я там паставіла свой матацыкл.

* * *

На паляванні:
— Марцін! Дзе ты?
— Тут, — адказвае голас справа.
— А ты, Валодзя?
— Тут, — адказвае голас злева.
— У такім выпадку, дзякуй Богу, застрэліў дзіка.

* * *

Перад парогам стае жабрак і пытаецца:
— Ці няма ў вас нейкіх старых непатрэбных чаравікаў?
— Дык вы ж маеце на нагах зусім новыя.
— У тым то і справа, што яны цалкам псуюць мой інтарэс.

Запісаў **АНДРЭЙ ГАЙРЫЛЮК**




Ведаеш, Сэрцайка, мы пажаніліся пяць гадоў таму. Пажаніліся з вялікага кахання: толькі і марылі аб тым, каб быць разам. Здавалася, што збылося наша шчасце, бо мы ж заўсёды марылі пра добрую, шматлікую сям'ю. Толькі сям'я з вялікай колькасцю дзяцей здавалася нам сапраўднай — калі дзеці былі крыніцай усіх радасцей і задавальнення.

На працягу гэтых пяці гадоў я нарадзіла трое дзяцей. І зразумела, што ў жыцці не ўсё выглядае так ружова, як у марах. Высветлілася, што мой муж хацеў чэрпаць з факту існавання нашых дзяцей адно радасць, а ўсе больш клапатлівыя справы, як нараджэнне, кармленне, мыццё пялёнак, няспанне па начах, — гэта мая галіна, мой абавязак.

Я станавілася ўсё больш змучанай і раздражненай, а муж мой выглядаў цалкам гладка. Больш таго, у хаце бываў штораз радзей, стараўся знайсці сабе нейкі занятак па-за домам, дзе не чуваць было плачу дзяцей.

Я аднак жа была закаханая ў яго і без слова цягнула сваю лямку. Зрэшты, мне ўвесь час здавалася, што калі мужа ў хаце не было, дык абазначала гэта, што зарабляе ён дадатковы грош, бо я сядзела дома з дзецьмі і пра прафесійную маю працу пакуль што не магло быць гутаркі. З прафесіяй інжынера муж меў даволі вялікія магчымасці, каб зарабіць.

На працягу гэтых гадоў мы амаль нікуды не выходзілі разам, бо то я была цяжарная, то радзіла, то сядзела з немаўлятамі. З выгляду і муж нідзе не бываў, а прынамсі не браў удзелу ў сямейных урачыстасцях. Аднак штораз часцей меў то нейкія курсы, то камандзіроўкі. Я свята верыла яму. Не магла сабе ўявіць, што можа для яго існаваць нешта па-за намі.

Сёлета ў карнавале я сказала сама сабе: хопіць! кропка! І пры першай жа нагодзе мы пакінулі цэлую тройку нашых дзетак у маіх бацькоў ды паехалі на вяселле да сваякоў у іншае ваяводства.

Я адчувала сябе там, праўду сказаўшы, сярэдне. Даўно не была на ніякіх урачыстасцях, не зусім арыентавалася, як цяпер трэба апрануцца, каб было модна. А што ўжо гаварыць пра танцы! Апошні раз была я на паркеце мо ў пару месяцаў пасля нашага вяселля, пасля ўжо не выпадала. Дык танцавала як умела, нягледзячы на моду, традыцыйна.

Затое мой муж, ого-го! Спачатку танцаваў са мною, а пасля бачу, што яму тое традыцыйнае танцаванне знудзілася. Дык пачаў запрашаць па чарзе маладых паненак і адбіваць модныя такты на паркеце. Праўда, і я не ўвесь час сядзела, калі ён танцаваў, але са здзіўленнем заўважыла, што мой муж танцуе зусім інакш, чым танцаваў раней, спрытна закручвае паненак і адчувае сябе ў танцы, як малады бог. Выглядала, што ён быццам бы і не сыходзіў з паркету.

Я глядзела на ўсё гэта і вачам сваім не верыла. Дзе і калі ён так налаўчыўся?! Я ж сядзела з дзецьмі, а ён увесь час працаваў... І ў мяне ўзнікла падазрэнне, што ў тым часе, калі мой муж не бываў у хаце, ён не толькі працаваў. Як ты думаеш, Сэрцайка, ці маю я падставы да непакою?

**Аня**

Аня! Сапраўды, у сне ён гэтак танцаваць не навучыўся! Я дасканала разумею твой непакой. Але ж падумай сама: былі і курсы, і камандзіроўкі, а ці ж не было там і дзяўчат?! Напэўна табе прыкра, бо прыйшла табе ў галаву думка, што ён гуляў тады, калі ты займалася толькі і выключна выхаваннем дзяцей. Зразумела, аднак, што і ты, калі б працавала, сустракалася б з людзьмі і часамі, магчыма, таксама і табе надарылася б аказія, каб затанцаваць.

Разумею твой жаль, але ты мусіш зрабіць адпаведныя вывады з таго, што ўбачыла. Годзе сядзець толькі ў хаце і займацца выключна дзецьмі. Замест умацаваць сям'ю, можаш няхочучы яе разваліць. Пастарайся быць цікавай для мужа не менш за тых паненак і часцей з ім выходзіць у кампанію.

**СЭРЦАЙКА**